12 красавіка 2019 | № 14 (625)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
ISSN 2218-2144
•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА
•ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

**Магніцікі выратуюць Канстанцінопаль?**
Стар. 9

**4 СТАЦЬ ЭКСТРЭМІСТАМ: ХУТКА І ЛЁГКА**

Спіс экстрэмісцкіх матэрыялаў утрымлівае больш за 240 кніг, сайтаў і паблікаў (а таксама магнітаў і аўдыёфайлаў)



**5 ЯК БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАВА «ДАПАМАГАЕ» ХВОРЫМ НА БАС**

«Я з нецярпеннем чакаю, калі ў нас будзе новы кіраўнік дзяржавы, пры якім краіна дапаможа мне пераадолець шэсць прыступак, што аддзяляюць мяне ад знешняга свету»

**6–7 НАД УСЁЙ БЕЛАРУССЮ ДАРАГОЕ НЕБА**

Чыноўнікі з айчыннай авіяперавозчыцкай галіны кажуць, што лаўкосты не надта імкнуцца ў Беларусь.
А тыя, у сваю чаргу, заяўляюць: іх папросту не пускаюць

**10 ЯК ІМПЕРЫЯ ЗМАГАЛАСЯ З ЦВЯРОЗАСЦЮ**

Антыалкагольны рух пачаўся з Брэстчыны і ахапіў 32 губерні колішняй «турмы народаў» — Расійскай імперыі



# На мяжы выбараў

## Ціск на грамадзянскую супольнасць — прыкмета пачатку палітычнай кампаніі



Сяргей ПУЛЬША

Улады пачалі, здавалася б, незразумелы наступ на грамадзянскую супольнасць. Знос крыжоў у Курапатах — нахабная дэманстрацыя «свайго месца» для апазіцыі. Рэпрэсіі ў Брэсце, датычныя пратэстоўцаў супраць пуску акумулятарнага завода. Забарона шырокага святкавання Дня Волі ў Мінску. Уціск незалежнага прафсаюзу гарнякоў на «Беларуськаліі». І, канешне,ператрус у мінскім офісе тэлеканала «Белсат».

Зазвычай улада дзейнічае такім чынам выключна перад нейкімі вельмі важнымі падзеямі. Найчасцей — перад маштабнай палітычнай кампаніяй.

Асабліва цікава тое, што і забарона Дня Волі, і знос крыжоў у Курапатах падкрэслена адбываліся нібыта «па загадзе» персанальна Аляксандра Лукашэнкі. У часе «вялікай размовы» той казаў і пра святкаванне ўгодкаў БНР, і пра «навядзенне парадку» ў Курапатах. Выглядае, што іншыя прадстаўнікі выканаўчай улады ўсяляк імкнуцца прадэманстраваць: кіраўнік дзяржавы трымае руку на пульсе, яму да ўсяго ёсць справа, ён кантралюе любую сітуацыю.

Застаецца толькі варажыць: якая палітычная кампанія нас чакае. На носе іх дзве: выбары парламенцкія і прэзідэнцкія.

Парламенцкія выбары — не такая значная падзея, каб дзеля яе пачынаць хвалю рэпрэсій супраць грамадзянскай супольнасці і апазіцыі ды дэманстратыўна руйнаваць Народны мемарыял у Нацыянальным некропалі. Дзеля парламенцкай кампаніі ўлады наўрад ці будуць сварыцца з Польшчай, з якой толькі-толькі наладзілі шчыльны кантакт, праз уціск тэлеканала «Белсат» (які фармальна ёсць структурай польскага TVP). І, канешне ж, парламенцкія выбары — не нагода для таго, каб паўсюль падкрэсліваць значнасць кіраўніка дзяржавы.

Імаверна, узімку гэтага года нас чакае прэзідэнцкая кампанія.

Старшыня Цэнтрвыбаркаму Лідзія Ярмошына апошнім часам пастаянна падкрэслівала: ЦВК рыхтуецца да «разведзеных па часе» выбарчых кампаній, адна з якіх пройдзе напрыканцы гэтага года. Якая гэта будзе кампанія — парламенцкая альбо прэзідэнцкая, — яна не ведае. Аднак парламенцкую кампанію ў гэты час правесці складана.

Па-першае, калі абіраць у гэты час новы склад Палаты прадстаўнікоў — гэта азначае ці не на год скараціць паўнамоцтвы дзеючага парламента. Такі крок з пункту гледжання права вельмі сумнеўны. Па-другое, у такім выпадку перадвыбарчая кампанія прыпадае якраз на напружаную сесію ППНС, на якой зазвычай прымаецца бюджэт на наступны год. То-бок, праводзіць у 2019-м выбары ў парламент азначае адно з двух: альбо пазбавіць дзеючых дэпутатаў магчымасці агітацыі, альбо застацца без бюджэту.

Іншая справа — прэзідэнцкія выбары. Іх можна правесці раней «дзеля зручнасці» і не толькі. Заўчасныя прэзідэнцкія выбары — не будзем забывацца — гэта фішка Аляксандра Рыгоравіча. Так было і раней. Напрыклад, прэзідэнцкія выбары 2006 года павінны былі быць праведзеныя ў ліпені, а прайшлі ў сакавіку. Выбары снежня 2010 года павінны былі адбыцца на самай справе ў лютым 2011 года. Нарэшце, апошнія па часе прэзідэнцкія выбары 11 кастрычніка 2015 года па законе павінны былі праводзіцца не раней за лістапад 2015 года.




> **Заўчасныя прэзідэнцкія выбары — не будзем забывацца — гэта фішка Аляксандра Рыгоравіча. Не выключана, што і цяпер ён зробіць тое ж самае**

Лукашэнка стала пасоўвае падаўжэнне свайго тэрміна на «раней». Не выключана, што і цяпер ён зробіць тое ж самае. Па-першае, ён такім чынам «сціскае час» для сваіх апанентаў на падрыхтоўку (калі прэзідэнцкія выбары будуць абвешчаныя на студзень, пра «праймерыз» правацэнтрысцкай кааліцыі, напрыклад, ужо можна забыцца). Па-другое, зразумела, што эканамічная сітуацыя будзе толькі пагаршацца. І таму пралангацыю кіравання Лукашэнкі праводзіць трэба чым раней, тым лепей.

У прэзідэнцкіх выбарах — 2019 ёсць яшчэ адзін цікавы момант. Калі яны пройдуць у 2019-м, то наступныя, праз пяць гадоў, па часе супадаюць з расійскімі прэзідэнцкімі выбарамі 2024 года. Пра тыя расійскія выбары ўжо кажуць як пра «дылему Пуціна» — ён павінен або сысці, або нейкімі выкрутасамі застацца на сваёй пасадзе. Адным з такіх выкрутасаў называюць стварэнне паўнавартаснай Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі, на чале якой і стане Пуцін. Калі ж беларускія прэзідэнцкія выбары супадаюць па часе з расійскімі — расійскае кіраўніцтва будзе занадта занятае сваімі праблемамі, каб ціснуць на Лукашэнку.

Чакаецца, што пра выбары кіраўнік дзяржавы нешта скажа 19 красавіка, падчас паслання народу і парламенту. Да гэтага моманту засталося няшмат часу. Пачакаем.

# Вярнуць крыжы ў Курапаты!

**Удзельнікі Курапацкай варты аднеслі ў Адміністрацыю прэзідэнта зварот з патрабаваннем вярнуць зруйнаваныя 4 красавіка крыжы.**

Як распавяла адна з аўтараў звароту Ганна Шапуцька, руйнаванне крыжоў у Курапатах — акт дзяржаўнага вандалізму, які трэба выпраўляць.

«4 красавіка стаўся трагічным днём для беларускага грамадства. Вы, Аляксандр Рыгоравіч, пайшлі вайной супраць беларускага народа, аддаўшы каманду на знішчэнне курапацкіх крыжоў», — напісана ў звароце.

Да звароту прыкладзены шэраг дадаткаў: мапа з межамі мемарыяла, дакументы аб зборы грошай на крыжы на краўдфандынгавай платформе talaka.by, а таксама канцэпцыя мемарыяла, якую ўхвалілі Праваслаўная царква і Каталіцкі касцёл.

У звароце адзначаецца, што крыжы былі ўсталяваныя на законнай падставе. У прыватнасці, яшчэ ў 2002 годзе было ўзгодненае ўсталяванне крыжоў па перыметры Курапатаў, а ў 2013-м у пашпарце мемарыялу было запісана, што перыметр урочышча «вызначаны драўлянымі крыжамі, пастаўленымі рытмічна з аднолькавымі інтэрваламі». То бок, адзначаюць аўтары звароту, у 2002 годзе крыжы былі законна ўсталяваныя, а ў 2016–2018 іх замянілі новымі, бо старыя ўжо спарахнелі.

«Згодна з беларускім заканадаўствам, як на тэрыторыі мемарыялу, так і на тэрыторыі яго ахоўных зонаў, дазваляецца выкананне работ па ўшанаванні памяці ахвяр палітычных рэпрэсій. Замена старых крыжоў новымі драўлянымі — гэта нішто іншае, як працяг працы па ўшанаванні памяці ахвяр палітычных рэпрэсій», — падсумоўваецца ў звароце.

Нагадаем, 4 красавіка ў Курапатах супрацоўнікі Бараўлянскага спецлягсасу выравалі і вывезлі 70 крыжоў, усталяваных летам па перыметры мемарыялу ўдзельнікамі Курапацкай варты. Замест крыжоў курапацкі лес абнеслі агароджай.

**НЧ, belsat.eu**

# Вынас тэхнікі расцэньваем як рэпрэсіі

**Афіцыйная заява тэлеканалу «Белсат» у сувязі зператрусам у мінскім офісе.**

Працаўнікі Следчага камітэту Беларусі некалькі гадзінаў праводзілі дакладны ператрус у памяшканні, што выкарыстоўваецца для працы журналістаў, якія супрацоўнічаюць з «Белсатам» у Мінску, пасля чаго сярод іншага вынеслі ўсе камп'ютары. Афіцыйная падстава — расследаванне крымінальнай справы паводле часткі 2 артыкула 188 («Паклёп»), распачатай мінскай пракуратурай.

Летась на нашым партале ў тэксце пад відэаматэрыялам пра меркаваную карупцыю ў Міністэрстве аховы здароўя праз тэхнічную памылку была пададзеная памылковая інфармацыя (быў апублікаваны чарнавік, не канчатковы варыянт тэксту). Прычым памылка была толькі ў тэксце ў інтэрнэце, а не ў тэлевізійным матэрыяле. Памылку мы хутка выправілі, апублікавалі абвяржэнне, прынеслі прабачэнні генералу Андрэю Шведу, якога тая памылка датычыла. Следчы камітэт правёў праверку ў гэтай справе — і падставаў для крымінальнага пераследу не знайшоў. Аднак у студзені сёлета мінская пракуратура завяла крымінальную справу з гэтай жа нагоды.

Мы перакананыя, што ўлады выкарыстоўваюць фармальную нагоду, каб яшчэ раз паказаць незалежным СМІ іх месца, «зачысціць» медыйную прастору перад будучымі выбарамі. Пасля сумнавядомай «справы БелТА» чарга дайшла і да нашага тэлеканалу. Адзначым, што журналісты, якія супрацоўнічаюць з «Белсатам», пастаянна плацяць вялізныя штрафы за працу без акрэдытацыі, якой «Белсату» не даюць. Цяпер у МЗС — чарговая наша заяўка на акрэдытацыю.

Вынас тэхнікі расцэньваем як рэпрэсіі, бо справа абсалютна ясная: мы прызналі памылку, перапрасілі. Мяркуем, што матэрыялы, якія застаюцца ў рэдакцыйных камп'ютарах, не могуць унесці ў справу нічога дадатковага, а мэта такіх дзеянняў — ускладніць нашу працу.

Незалежна ад пераследу «Белсат» будзе працягваць працу, бо мы мяркуем, што інфармацыю па-беларуску і без цэнзуры варта несці грамадству, нават калі гэта звязана са штрафамі, затрыманнямі і ператрусамі.

Шчыра дзякуем калегам з іншых незалежных медыяў, а перадусім нашым гледачам і чытачам за салідарнасць.

**Кіраўніцтва тэлеканалу «Белсат»**

# Штрафы і суткі — за абарону Курапатаў і заклікі памаліцца

**У Мінску 8–9 красавіка адбыліся суды над Паўлам Севярынцам, Нінай Багінскай, Вольгай Нікалайчык, Максімам Вінярскім, Міколам Статкевічам.**

Ніна Багінская была затрымана 5 красавіка ў Курапатах: 73-гадовая жанчына стала перад экскаватарамі, якія ўзводзілі плот на месцы крыжоў, і патрабавала спыніць іх працу. Прыйшлі міліцыянты з папярэджаннямі. Пасля таго, як Ніна Багінская сказала, што не разумее іх па-руску, падцягнуліся яшчэ міліцыянты і пачалі настойліва прапаноўваць Багінскай прайсці да машыны і там паразмаўляць да адпусціць яе. Сустаршыня БХД Павел Севярынец пайшоў разам з Багінскай і міліцыянтамі да машыны. У выніку і Ніну Багінскую, і Паўла Севярынца адвезлі ў Бараўлянскае РУУС, а адтуль — у ізалятар часовага ўтрымання на вул. Скарыны, дзе яны былі да суда.

На судзе высветлілася, што з 5 красавіка спадарыня Ніна трымала галадоўку. Паводле складзеных пратаколаў, яе абвінавачвалі ў хуліганстве і непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі. Спачатку суддзя Аляксей Крапачоў адправіў пратаколы на дапрацоўку, і спадарыню Ніну вызвалілі ў зале суда. Але неўзабаве суд аднавіўся — і актывістцы прысудзілі штраф памерам у 50 базавых велічынь.

Паўла Севярынца судзілі паводле двух пратаколаў. Яго абвінавацілі ў тым, што 5 красавіка ён перашкаджаў ставіць у Курапатах плот, крычаў, хапаў рабочых за рукі, не рэагаваў на заўвагі.

Другі пратакол склалі за тое, што не падпарадкаваўся законным патрабаванням міліцыянта, намесніка начальніка Мінскага РУУС Сяргея Удодава «праследаваць у службовы аўтамабіль».

Суддзя Павел Жачко палічыў віну Паўла Севярынца даказанай па двух артыкулах — «дробнае хуліганства» і «непадпарадкаванне законнаму патрабаванню службовай асобы». Паводле двух пратаколаў Севярынца асудзілі на 5 і 10 сутак зняволення. Усяго — на 15 сутак з моманту затрымання з улікам праведзеных у ізалятары да суда трох сутак.

Грамадскую актывістку Вольгу Нікалайчык затрымалі 5 красавіка каля 20-й гадзіны. Яна пасля вечаровай малітвы засталася ў Курапатах, каб пасадзіць кветкі. Па дарозе дадому на выхадзе з падземнага пераходу яе закінулі ў мікрааўтобус, забралі тэлефон.

«Міліцыянты паводзілі сябе агрэсіўна, здзекаваліся, пагражалі пасадзіць на ланцуг. Павезлі ў Цэнтр ізаляцыі правапарушэнняў на Акрэсціна. Я адразу ж абвясціла, што буду трымаць галадоўку. У камеры першую ноч не магла спаць, мяне спрабавалі размясціць на верхняй шконцы. Потым ужо перавялі на ніжнюю шконку. Пратакол я не падпісала», — распавяла «Свабодзе» пасля вызвалення Вольга Нікалайчык.

8 красавіка яе прывезлі ў Першамайскі суд Мінска. Справу разглядаў суддзя Юрый Гарбатоўскі. Асудзілі яе за «заклік на несанкцыянаванае мерапрыемства ў сацыяльных сетках». Вольга настойвала, што гэта быў не заклік на мерапрыемства, а інфармаванне пра малебен за Курапаты.

Прысуд — 35 базавых велічыняў (892,5 рубля).

Затрыманага 7 красавіка каля дома Міколу Статкевіча, які збіраўся на малітву за Курапаты да Свята-Духавага сабора пасля зносу крыжоў у мемарыяле, судзілі раніцай 9 красавіка. Суд доўжыўся 5 хвілін. Суддзя Вікторыя Шабуня вынесла рашэнне: 15 сутак арышту.

Мікола Статкевіч адмовіўся ўдзельнічаць, заявіў суддзі адвод, але яна не пагадзілася. Суд адбываўся за нібыта заклік да несанкцыянаванай акцыі (артыкул 23.34 КаАП РБ), Статкевіч абурыўся: «Якая акцыя, гэта ж была малітва!»

Да заканчэння працэсу ён паспеў заклікаць зноў прыйсці маліцца ў нядзелю ля кафедральнага сабору ды выгукнуў: «Жыве Беларусь!».

Актывіст Максім Вінярскі правёў амаль 72 гадзіны пад вартай за заклік да малебну і выйшаў на волю 8 красавіка. Але ненадоўга: 9 красавіка суддзя Маскоўскага суда Таццяна Мотыль прысудзіла актывісту 13 сутак арышту.

11 красавіка ўсё яшчэ было невядомым месцазнаходжанне актывіста грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» Арцёма Чарняка. Ён быў затрыманы 7 красавіка перад пачаткам малітвы за Беларусь і Курапаты, якая прайшла каля Свята-Духава кафедральнага сабора Мінска.

**НЧ, svaboda.org**

# Рашэнне па папраўках у 328 артыкул КК прымуць цягам дзесяці дзён

**Пра гэта заявілі на сустрэчы рабочай групы ў Палаце прадстаўнікоў. Сустрэча доўжылася каля дзвюх гадзін. Старшыняваў кіраўнік пастаяннай камісіі па нацыянальнай бяспецы Валянцін Міхневіч.**

Прыняць удзел у сустрэчы запрасілі чальцоў Саўміна, начальніка галоўнага ўпраўлення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі МУС Генадзя Казакевіча, а таксама прадстаўнікоў сваякоў асуджаных паводле артыкула 328 КК — Таццяну Канеўскую і Ліяну Шубу.

«У прынцыпе наркакантроль супраць змяненняў у артыкул 328, хоць ужо не так катэгарычна, мне здаецца, таму што былі вельмі важкія аргументы, — сказала маці асуджанага паводле артыкула 328 Таццяна Канеўская. — Галоўны аргумент з боку наркакантролю — узмацненне жорсткасці заканадаўства дазволіла палепшыць сітуацыю з наркотыкамі. Мы, у сваю чаргу, згодныя з тым, што меры ўзмацнення жорсткасці, напэўна, патрэбныя былі ў той момант, удалося знізіць наплыў наркотыкаў. Але цяпер трэба выкарыстоўваць не толькі пугу, але і пернік, трэба даць магчымасць змякчыць пакаранне».

Канеўская падкрэсліла, што Саўмін павінен прыняць канчатковае рашэнне на працягу тыдня ці дзесяці дзён. «Нам так сказалі на сустрэчы. Альбо Саўмін адкліча гэтыя папраўкі, альбо яны застануцца ў Палаце прадстаўнікоў, і тады дэпутаты будуць галасаваць за іх у другім чытанні», — сказала Канеўская.

Законапраект з папраўкамі ў артыкул 328 КК парламент разглядзеў вясной мінулага года. Гэтаму спрыяла галадоўка актывістак ініцыятывы «Матчын рух 328», якая доўжылася 15 дзён. Праект закона аб унясенні змяненняў у шэраг кодэксаў прайшоў першае чытанне, у ім з'явілася палажэнне аб зніжэнні ніжняй мяжы пакаранняў паводле частак 2 і 3 артыкула 328 КК. Аднак пры разглядзе ў другім чытанні на восеньскай сесіі змякчальныя папраўкі ў артыкул 328 з законапраекта былі вынятыя.

20 снежня 2018 года Міхневіч на сустрэчы са сваякамі асуджаных па дадзеным артыкуле паведаміў, што папраўкі плануецца разгледзець у другім чытанні на вясенній сесіі парламента.

2 красавіка бягучага года — у дзень адкрыцця сесіі — каля 30 сваякоў асуджаных прыйшлі да Дома ўрада, каб даведацца пра тэрміны разгляду дэпутатамі змяненняў у антынаркатычны артыкул.

Тады стала вядома, што Саўмін не ўзгадніў прапановы аб зменах у артыкул 328 з-за пазіцыі МУС.

У Палаце прадстаўнікоў было вырашана правесці сустрэчу рабочай групы з удзелам у тым ліку прадстаўнікоў МУС для абмеркавання пытання аб змякчэнні пакарання паводле артыкула 328 КК. Па патрабаванні сваякоў асуджаных на сустрэчу запрасілі Канеўскую і Шубу.

**naviny.by**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Трэба больш золата

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Міжнародны валютны фонд пагоршыў прагноз росту беларускай эканомікі ў 2019 годзе. Яшчэ летась у кастрычніку МВФ прагназаваў рост эканомікі Беларусі на 3,1%, зараз гэтая лічба складае 1,8%. Што гэта азначае?**



Фота www.zen.yandex.ru

Азначае гэта, што наша эканоміка працуе кепска, і лепей — не будзе. Найперш, лепей не будзе ў дэпрэсіўных рэгіёнах. Амаль адначасова з такой высновай МВФ Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі заявіла, што ў краіне налічваецца некалькі дзясяткаў дэпрэсіўных раёнаў з пункту гледжання памеру заработнай платы. Сем'і, якія жывуць там, не могуць сабе дазволіць купляць мінімальны спажывецкі набор прадуктаў.

Больш за ўсё такіх раёнаў у Віцебскай і Магілёўскай абласцях. Называць гэтыя раёны ў федэрацыі не сталі. Нагадаем, у траўні мінулага года ў цэлым па краіне было 35 такіх праблемных раёнаў, а ў лістападзе — 6, сярод іх — Шаркаўшчынскі, Браслаўскі і Мёрскі. Тут зарплаты не дазваляюць набыць набор прадуктаў і аплаціць паслугі ў межах мінімальнага спажывецкага бюджэту.

«У асноўным гэта сельскагаспадарчыя раёны, дзе летам заробкі павялічваюцца, а да зімы значна падаюць. Нізкі ўзровень заработнай платы, як правіла, звязаны з тым, што там зачыняюцца апошнія прамысловыя прадпрыемствы і не вельмі добрая глеба, якая дае не вельмі добры ўраджай, — тлумачыць намесніца старшыні ФПБ Алена Манкевіч. — Ёсць разлікі Мінпрацы і Міністэрства аховы здароўя, якую колькасць і чаго людзі павінны з'ядаць на месяц. Гэтыя прадукты ўваходзяць у мінімальны спажывецкі набор. Мы глядзім, колькі зарабляе сям'я з двух дарослых і двух дзяцей у кожным раёне і колькі ды чаго яна можа сабе дазволіць набыць на гэтыя грошы».

«Самых-самых» дэпрэсіўных раёнаў ФПБ налічыла сем. Гэта азначае, што людзі там фактычна галадаюць. «Беларускі эканамічны цуд» і «сацыяльная дзяржава» — ва ўсёй сваёй прыгажосці.

ФПБ збіраецца прапанаваць ураду стварыць рабочую групу па развіцці такіх раёнаў. Але на іх развіццё, зноў жа, трэба грошы, якія таксама з неба не зваляцца. Таму не дзіўна, што нашы чыноўнікі пачалі шукаць іх больш актыўна.

Самы звыклы шлях — пазычыць. Днямі беларуская дэлегацыя на чале з міністрам эканомікі вылятае ў ЗША для ўдзелу ў вясновай сесіі МВФ. Традыцыйны візіт можа стаць пачаткам чарговых і працяглых перамоваў паміж Беларуссю і фондам. У склад дэлегацыі, якая паляціць у Вашынгтон, увойдуць высакапастаўленыя службовыя асобы Беларусі: міністр эканомікі Дзмітрый Круты, міністр фінансаў Максім Ермаловіч і намеснік старшыні праўлення Нацбанка Дзмітрый Калечыц. Праграма перамоваў не афішуецца, але відавочна, што такая прадстаўнічая дэлегацыя ляціць на перамовы з МВФ не проста так.

Але наўрад ці грошы МВФ пойдуць на развіццё рэгіёнаў. У нас і так праблем хапае. У 2019 годзе, згодна з лютаўскімі дадзенымі Мінфіна, даўгавыя выплаты Беларусі складуць 3,5 мільярда долараў, у 2020-м — 3,9 мільярда долараў, у 2021 годзе — 3,7 мільярда долараў. «Напружаны графік плацяжоў» па дзярждоўгу, як называюць яго ўлады, прымушае шукаць грошы па ўсім свеце для рэфінансавання даўгавых выплат. Крэдыт МВФ — адзін з самых танных варыянтаў вырашыць гэтую задачу.

На тыдні паспрабавалі знайсці яшчэ адну крыніцу грошай — «забраць у багатых і аддаць бедным». Беларусь пісьмова апавясціла кампанію «Транснафта», што плануе павысіць тарыфы на транзіт нафты на 23% з 1 траўня. Паводле словаў дарадцы кіраўніка «Транснафты» Ігара Дзёміна, такая прапанова была зроблена са спасылкай на экалагічную сітуацыю ў Беларусі.

«Яны хочуць палепшыць экалогію за кошт трубаправоднага транспарту. Калі мы не пагаджаемся з павелічэннем, яны звяртаюцца ў антыманапольнае ведамства. ФАС Расіі і Беларусь павінны правесці гэтыя перамовы і дамовіцца аб павышэнні», — адзначыў Дзёмін.

Паміж Расіяй і Беларуссю з 2010 года дзейнічае міжурадавае пагадненне, якое рэгулюе тарыфы на паслугі па транзіце нафты па магістральных трубаправодах у Беларусі. Пагадненне дапускае планавы і пазапланавы перагляд тарыфаў. Планавы перагляд тарыфаў ужо быў зроблены ў студзені 2019 года — была праведзена планавая індэксацыя на 7,6%. Новыя тарыфы ўступілі ў сілу 1 лютага 2019 года. Для пазапланавага перагляду тарыфаў беларускімі арганізацыямі трубаправоднага транспарту павінны быць падрыхтаваны абгрунтаваныя прапановы, пасля чаго іх перадаюць на ўзгадненне ў Расію. Калі дамоўленасці аб памеры павышэння дасягнуць не атрымліваецца, то новы тарыф вызначаецца ўпаўнаважанымі органамі краін пры ўдзеле транспартных арганізацый.

Але гэта яшчэ — не блізкі свет. І таму ёсць трэці шлях здабывання «золата» — «узяць усё і падзяліць». Пра гэта казаў Аляксандр Рыгоравіч падчас паездкі ў Лагойскі раён. Паводле прэс-службы кіраўніка дзяржавы, той надаў асаблівую ўвагу працы гаспадарак Лагойскага раёна, якія раней былі перададзеныя ў якасці падшэфных арганізацый буйным прадпрыемствам і прыватным структурам. Ён пацікавіўся, наколькі эфектыўна яны працуюць, і даручыў правесці іх рэвізію. «Хачу паглядзець, як гэтыя падшэфныя, кажучы па-старому, гаспадаркі працуюць. Думаю, трэба кагосьці яшчэ дагрузіць дадаткова калгасамі, саўгасамі. Дапусцім, МТЗ ці «Беларуснафту», — сказаў ён.

Канешне, МТЗ скончыў 2018 год са станоўчай дынамікай, але нельга сказаць, што ён шыкуе. Мы рэгулярна бачым здымкі, калі гатовай прадукцыяй — трактарамі — забітая ўся тэрыторыя прадпрыемства. «Дадаткова дагружаць» яго калгасамі... Ну не вытрымае гэтага МТЗ!

І, канешне ж, узнікае пытанне — а чаму самі калгасы не могуць працаваць без «шэфства»? Чаму могуць гэта рабіць нешматлікія фермеры, а калгасы — не? Зноў «беларускі эканамічны цуд»?

А можна яшчэ скарыстацца «параўнальна сумленным адбіраннем грошай у насельніцтва». Больш за 16 мінчанаў (як уласнікаў, так і наймальнікаў жылля) у сакавіку атрымалі жыроўкі з поўнай аплатай падагрэву вады. Яны апынуліся ў спісе «дармаедаў», і да іх, пры разліку жыллёва-камунальных паслуг выкарысталі «эканамічна абгрунтаваны тарыф». Прычым, як інфармуе сайт minsknews.by, па поўным тарыфе налічылі аплату не толькі за люты 2019-га, але зрабілі пераразлік за студзень.

Дзіўна, што ўладам не прыходзіць на розум самы звычайны шлях здабывання грошай — зарабіць і зэканоміць. Можа, у гэтым і ёсць сутнасць «беларускага эканамічнага цуду»?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Анжаліка Борыс

**Старшыню Саюза палякаў Беларусі будуць судзіць за кірмаш «Казюкі».**

Удачыненні да старшыні непрызнанага беларускімі ўладамі Саюзу палякаў (СПБ) Анжалікі Борыс распачалі адміністрацыйную справу за арганізацыю традыцыйнага кірмашу «Казюкі» на закрытай тэрыторыі. Кірмаш праводзіўся ў Гродне ў дваццаты раз. Раней улады не мелі да яго прэтэнзій.

Кірмаш адбыўся 3 сакавіка ва ўнутраным дворыку каля польскага консульства. Па словах Анжалікі Борыс, гэтую тэрыторыю СПБ арандуе. Арганізатарамі выступілі СПБ і Генеральнае консульства Польшчы ў Гродна.

Як паведаміла Анжаліка Борыс, кірмаш «Казюкі» з удзелам рамеснікаў праводзіўся ў Гродне Саюзам палякаў у дваццаты раз, але парушэнне ў яго правядзенні міліцыянты ўбачылі ўпершыню. Апошні раз на Борыс складалі адміністрацыйны пратакол у 2008 годзе за арганізацыю святкавання Дзён Польшчы.

«Такая краіна цудаў: бывае — можна, бывае — нельга. Гэта палітычна матываваная справа. Яна заўсёды можа з'явіцца, калі няма ніякіх падставаў для гэтага», — лічыць Борыс.



## Марыя Тарасенка

**Марыя — першая «дармаедка», якая адважылася адстойваць свае правы ў судзе, рашэннем камісіі па садзейнічанню занятасці насельніцтва вызвалена ад выплаты камунальных паслуг па падвышаным тарыфе.**

Напярэдадні Марыя атрымала ад камісіі афіцыйнае пацвярджэнне, што яна вызваленая ад выплаты камунальных паслуг па падвышаным тарыфе на год у сувязі з «цяжкай жыццёвай сітуацыяй».

«Раней па нашых скаргах дармаедскія камісіі прызналі чацвярых чалавек занятымі ў эканоміцы. Прычым аднаго з іх — па стане здароўя. Марыю камісія адмовілася прызнаць занятай, але вызваліла яе на бягучы год ад пацяжэлай жыроўкі. Іншымі словамі, у наступным годзе ёй прыйдзецца пачынаць усё нанова. Такія рэаліі «дармаедскага» дэкрэта. Марыя разам з прававо службай прафсаюза РЭП вырашыла не спыняцца на дасягнутым. Пра свае планы яна раскажа бліжэйшым часам», — распавёў прававы інспектар прафсаюза РЭП Леанід Судаленка.



## Вікторыя Азаранка

**У мексіканскім Мантэрэі беларуска паказала, што ўсё яшчэ здольная на многае — дайшла да фіналу і абыграла Анжаліку Кербер. Праўда, на фінал з Мугуруса яе не хапіла.**

Фінальны матч Азаранка не змагла завяршыць з-за траўмы нагі. Мяркуючы па сімптомах, пашкоджанне цягліцавае, а значыць, цалкам выкліканае назапашанай стомленасцю: для Азаранка гэта быў пяты матч за шэсць дзён. Калі ў былыя часы яе арганізм з падобнай нагрузкай спраўляўся, то ў 29 гадоў і пасля нараджэння дзіцяці трымаць кандыцыю зусім няпроста.

Вельмі важна, што Азаранка ў прынцыпе здолела пераадолець складаны перыяд. У паўфінальнай сустрэчы з Кербер Азаранка ведала, як гуляць, і настолькі ўразіла ўсіх сваёй перамогай, што перад фіналам нават букмекеры сталі аддаваць перавагу беларусцы ў паядынку з Гарбін Мугуруса.

Па ходзе ўсіх геймаў Азаранка не хапала літаральна крышачку — вастрыні, удачы, добразычлівасці суддзяў. Не хапіла здароўя. Вікторыя гэта старанна хавала і нічым не выдавала. Аднак у перапынку паміж сэтамі яна выклікала лекара. Ёй замарозілі і шчыльна затэйпавалі галёнку, аднак гэта не дапамагло. Раптам высветлілася, што Віка не здольная на рэзкія рухі і не можа нармальна бегаць. Аднак Азаранка працягнула змагацца.

Падчас цырымоніі ўзнагароджання беларуска не змагла стрымаць слёз і расчуліла гледачоў прызнаннем важнасці для яе гэтага тытула ў Мантэрэі. Трыбуны не засталіся абыякавымі і сталі скандаваць: «Віка!» Момант атрымаўся такім яркім, што нават чэмпіёнка — амаль свая, якая гаварыла па-іспанску, ураджэнка Венесуэлы Гарбін Мугуруса — атрымала менш увагі.

# Стаць экстрэмістам: хутка і лёгка

Мікалай ДЗЯДОК

**Спіс экстрэмісцкіх матэрыялаў ад Міністэрства інфармацыі ўтрымлівае больш за 240 кніг, сайтаў і паблікаў (а таксама магнітаў і аўдыёфайлаў). Новы закон аб СМІ легалізуе пазасудовую блакіроўку, якая дэ-факта адбываецца ўжо зараз, а таксама дазволіць блакаваць цэлыя сацсеткі.**

Для разумення каранёў экстрэмістафобіі беларускай улады трэба пачаць з аналізу таго самага спісу экстрэмісцкіх матэрыялаў, створанага сумеснымі высілкамі МУС і Мінінфарму. Аналіз яго зместу дае такія вынікі: прыкладна палова матэрыялаў прама ці ўскосна датычацца неанацыстаў і іх субкультуры. Каля чвэрці — анархісцкія. Астатні кавалак дзеляць між сабой кнігі, брашуры і файлы ісламісцкага, руска-шавіністычнага і радыкальна-праваслаўнага кшталту.

Пры падрабязным аглядзе бачныя матэрыялы, якія апынуліся ў спісе з абсалютна незразумелай нагоды. Напрыклад, кніга «Indirect Fire Infantryman: Skill level», якая з'яўляецца інструкцыяй для пехацінцаў ЗША 1976 года. Дыск з песняй «Go vegan» (што экстрэмісцкага ў заклiку рабіцца веганам?), а таксама таямнічая «брошь серого цвета» (праверце, ці не завалялася ў вас такой?)

Зразумела, у спіс трапляюць не толькі матэрыялы, якія маюць найменшы намёк на гвалт, але і ўсе, што хоць неяк крытыкуе дзяржаву. Ярлык «экстрэмізму» навесілі на альбом «Прэс-фота Беларусі 2011», кнігу «Анархія працуе» амерыканскага пісьменніка і вандроўніка Пітэра Гелдэрлоаса, навінава-аналітычны анархісцкі сайт «Прамень».

### Мінінфарм: «Чытайце дакументы», ААЦ: «Мы ні пры чым»

Тое, як фармуецца спіс экстрэмісцкіх матэрыялаў, дагэтуль застаецца таямніцай. Мы вырашылі патэлефанаваць у структуры, якія так ці інакш адказваюць за рэгуляванне інтэрнэт-прасторы ў Беларусі, каб высветліць гэты момант. І перш за ўсе, вядома, звярнуліся ў Міністэрства інфармацыі, якое і публікуе на сваім сайце «Спіс экстрэмісцкіх матэрыялаў».

Мы змаглі дазваніцца да Юрыя Уладзіміравіча Бябешкі, намесніка начальніка сектара па прававым забеспячэнні і кантролі за адпаведнасцю заканадаўству.

***— Юрый Уладзіміравіч, добры дзень. Вашае ведамства наўпрост удзельнічае ў блакіроўках, ажыццяўляючы іх тэхнічны бок, я правільна разумею?***

— Няправільна.

***— А як тады?***

— Вы можаце адкрыць пастанову №6\8 ААЦ і Міністэрства сувязі, і Закон «Аб СМІ». Там ёсць парадак прыняцця рашэння аб абмежаванні доступу і яго ўзнаўлення.

***— У законе аб СМІ напісана, што матэрыялы могуць блакавацца паводле рашэння суда. Аднак па некаторых блакіроўках няма рашэнняў суда. Такім чынам, яны блакуюцца ў пазасудовым парадку. Правільна?***

— Так, гледзячы ў якім выпадку.

***— А калі ў пазасудовым парадку, як гэта адбываецца?***

— Гэта кожны канкрэтны выпадак і кожны орган — у адпаведнасці са сваёй кампетэнцыяй. Ёсць дэкрэт прэзідэнта №6, напрыклад, дзе ўскладзены такія функцыі на Міністэрства ўнутраных спраў.

***— То-бок, МУС можа прымаць такое рашэнне?***

— Яно не прымае рашэнне. Прымае рашэнне Мінінфарм. А МУС накіроўвае пісьмовае паведамленне. Адкрыйце дакументы, там усё напісана.

***— Яно накіроўвае пісьмовае паведамленне вам, і вы гэта прымаеце рашэнне?***

— Так.

***— У вас збіраецца орган ці камісія, якая гэтым займаецца?***

На гэтым моманце ў Юрыя Уладзіміравіча зазваніў тэлефон, ён сказаў, што яго выклікае міністр. Пасля неаднаразовых званкоў да яго слухаўку падняла жанчына, якая раіла перазваніць «хвілін праз 20». Але ані праз 20, ані праз 40 хвілін слухаўку ніхто не ўзяў. Не ўзяў яе ніхто і на наступны дзень.

Па парадзе Юрыя Уладзіміравіча мы адкрылі згаданыя ім дакументы, аднак адказаў на пытанні ў іх так і не знайшлі — пераважна агульныя фразы. Не высветленай таксама засталася і роля ААЦ у блакіроўках. Мы пазванілі па тэлефоне, указаным на яго сайце.

Мужчына, які падняў слухаўку, пачуўшы, па якой тэме ў яго хочуць узяць каментар, спачатку некалькі разоў пільна перапытваў імя журналіста і назву газеты, а потым папрасіў перазваніць пазней, бо яму трэба пракансультавацца. Але і пасля другога званку каментар быў не вельмі шчодры:

— Якое ў вас пытанне было? Па блакіроўцы сайтаў?

***— Так. Ці займаецца гэтым вашае ведамства. І калі так, то ў якой ролі?***

— Нашае ведамства гэтым не займаецца. Гэта паўнамоцтвы Закону «Аб СМІ». Усе звароты ў Міністэрства інфармацыі.

***— А можа вы займаецеся вызначэннем сайтаў, якія неабходна заблакаваць?***




— Уся інфармацыя вамі будзе атрыманая ў Міністэрстве інфармацыі.

***— Я званіў туды...***

— Мы не займаемся блакіроўкай сайтаў.

***— Вы падаеце інфармацыю?***

— Не, не падаем.

Аднак Пастанова №6\8 прымалася сумесна Міністэрствам сувязі і ААЦ. Таму казаць, што гэтая структура зусім «не мае дачынення» да блакіровак, не выпадае. Згодна з гэтай пастановай, любыя дзяржорганы, а таксама арганізацыі (!) у адпаведнасці з іх кампетэнцыяй могуць дасылаць у Мінінфарм пісьмовыя паведамленні аб неабходнасці абмежавання інфармацыі. Паведамленні высылаюцца па вызначанай форме, з пацвярджэннямі і абгрунтаваннямі неабходнасці блакіроўкі.

Мінінфарм жа цягам «трох працоўных дзён» з дня прыняцця рашэння аб абмежаванні доступу накіроўвае копію рашэння ў Дзяржаўную інспекцыю па электрасувязі Міністэрства сувязі.

### Праваабаронца: «Гэта празмернае абмежаванне свабоды выказвання меркавання і свабоды слова»

Аднак хто ж, такім чынам, акрамя суда, можа прызнаць матэрыялы экстрэмісцкімі? І калі блакіроўку ажыццяўляе Мінінфарм, то кім непасрэдна прымаецца рашэнне?

Пра гэта мы паразмаўлялі з праваабаронцай, супрацоўніцай праваабарончай арганізацыі Human Constanta Настай Лойка.

— Выразна апісанай працэдуры, якім чынам прызнаюць матэрыялы экстрэмісцкімі, няма. Пра гэта можна толькі здагадвацца з дэ-факта існуючай практыкі і асобных палажэнняў заканадаўства. Пакуль бачыцца такі алгарытм:

**1.** У законе «Аб супрацьдзеянні экстрэмізму» ў артыкуле 6 прапісваецца спіс суб'ектаў, якія могуць у розных формах удзельнічаць у працэдуры: гэта органы дзяржаўнай бяспекі, органы ўнутраных спраў, органы пракуратуры, органы памежнай службы, мытныя органы, орган дзяржаўнай аховы, Следчы камітэт Рэспублікі Беларусь, рэспубліканскі орган дзяржаўнага кіравання ў сферы масавай інфармацыі. Гэтыя органы выяўляюць падазроныя прадметы ці інфармацыю, прычым пра крытэры нам пакуль ніхто адказаць не можа. Пры неабходнасці прадметы канфіскоўваюць.

**2.** Прадметы ці інфармацыю накіроўваюць у Рэспубліканскую экспертную камісію па ацэнцы інфармацыйнай прадукцыі на прадмет наяўнасці (адсутнасці) у ёй прыкмет праяваў экстрэмізму пры Міністэрстве інфармацыі. Склад камісіі прызначаецца Саветам міністраў (незразумела, па якіх крытэрах і як туды трапіць). Ёсць абласныя камісіі.

**3.** Экспертная камісія піша сваё заключэнне. Калі камісія знаходзіць экстрэмізм, орган, які накіроўваў матэрыялы, перадае вынікі ў суд для канчатковага прызнання. Калі разгляд датычны прадметаў, то ў якасці зацікаўленай асобы ў грамадзянскі працэс запрашаюць чалавека, у якога канфіскавалі прадмет. Механізму альтэрнатыўных экспертыз няма. Судовае рашэнне прымаецца толькі на падставе заключэння камісіі. Калі размова пра блакаванне інтэрнэт-рэсурсаў, нікога не запрашаюць, — і даведаемся толькі пры аднаўленні спіса.

**4.** Адбываецца суд, на якім матэрыялы прызнаюцца экстрэмісцкімі. Рашэнне могуць абскарджваць толькі ўдзельнікі працэсу. Пасля ўступлення судовага рашэння ў сілу, яно з'яўляецца ў Рэспубліканскім спісе экстрэмісцкіх матэрыялаў на сайце Мінінфарма.

**5.** Часам экстрэмісцкай прызнаецца старонка ў інтэрнэце, старонкі ў сацыяльных сетках і нават нядаўна — тэлеграм-канал. Сайты блакуюцца праз дамовы з правайдарамі, а астатнія працэдуры незразумелыя. Хутчэй за ўсё, ідуць перамовы з самімі сацыяльнымі сеткамі (часта яны яшчэ некаторы час працуюць).

***— Наколькі такая працэдура адпавядае міжнародным нормам і Канстытуцыі?***

— Тое, што мы нават на сайце Міністэрства юстыцыі пра экспертныя камісіі знаходзім кароткія навіны пра змены ў складзе, і адсутнасць асобнай старонкі, прысвечанай ім, паказвае пэўную закрытасць. Незразумела, па якім прынцыпе туды набіраюць людзі, якімі метадычнымі матэрыяламі яны кіруюцца, што разглядаюць як экстрэмізм. Няма агульнага спісу матэрыялаў, якія праходзяць экспертызу, што дазваляе канфіскоўваць адны і тыя ж прадметы па некалькі разоў, а на практыцы розныя абласныя камісіі могуць па адных і тых жа матэрыялах прыйсці да розных высноў. Мяне непакоіць немагчымасць зрабіць альтэрнатыўныя экспертызы і тое, што суды складаюць сваё меркаванне толькі на заключэннях экспертаў, а таксама тое, што мы зусім не можам ведаць пра суды, якія датычныя анлайн-рэсурсаў. Мне падаецца, што часам гэта празмернае абмежаванне свабоды выказвання меркавання і свабоды слова.

### Хто стане экстрэмістам заўтра?

Як бачым, адзінага дзяржоргана, які б займаўся «экстрэмізмам», няма. Дзяржава дала даволі шырокія паўнамоцтвы ў забароне інфармацыі як Міністэрству сувязі, так і яшчэ паўтузіну іншых дзяржаўных службаў. Асаблівую цікаўнасць выклікае фактычна сакрэтная праца камісій (відавочнае капіяванне практыкі савецкай цэнзуры), якая, да таго ж, не пакідае нават маленькага шанцу яе аспрэчыць у судовым парадку. Адсутнасць якой-кольвечы адказнасці дае велізарную глебу для злоўжыванняў, а адсутнасць у камісіі метадалогіі і экспертных ведаў (што мы бачым на прыкладзе «броши серого цвета» ці інструкцыі для пехацінцаў ЗША) дазваляе паставіць па-за законам любую інфармацыйную прадукцыю.

Занадта шырокія крытэры экстрэмізму могуць падацца камусьці недапрацоўкай дзяржаўнай сістэмы: маўляў, законы адпаведныя былі прынятыя нядаўна, і няма прававой практыкі. Пакуль жа, гледзячы на дзейнасць дзяржорганаў і шалёную хуткасць росту «Спісу экстрэмісцкіх матэрыялаў», гэта выглядае, хутчэй, як прадуманая стратэгія. Дзяржаве і тым жа камісіям не выгадна абмяжоўваць экстрэмізм строгімі рамкамі — бо тады давядзецца іх прытрымлівацца. А ў нефармальных рухаў і радыкалаў ці проста нязгодных з'явіцца прававыя рычагі для размовы з дзяржорганамі і камісіямі. З той жа самай мэтай не акрэсленыя належным чынам ролі кожнай з дзяржструктур у працэсе забароны.

Гэта — не выпадковая прававая недасканаласць, а, хутчэй за ўсё, цвярозы разлік з прыцэлам, калі спатрэбіцца, на забарону любой крытыкі ўлады.

# Як беларуская дзяржава «дапамагае» хворым на БАС

Юрый ПУЗДРОЎ

**«Я з нецярпеннем чакаю, калі ў нас будзе новы кіраўнік дзяржавы, пры якім краіна дапаможа мне пераадолець шэсць прыступак, што аддзяляюць мяне ад знешняга свету», — піша ў рэдакцыю «Новага Часу» Юрый з Мінска з рэдкім невылечным захворваннем — бакавым аміятрафічным склерозам (БАС).**



**Для даведкі**

БАС — невылечнае захворванне цэнтральнай нервовай сістэмы, якое павольна прагрэсуе і пры якім адбываецца паражэнне як верхніх, так і ніжніх рухальных нейронаў, што прыводзіць да паралічу і наступнай атрафіі цягліц. Рана ці позна хворы губляе здольнасць самастойна перасоўвацца. На пазнейшых этапах хваробы адчуваюцца перабоі ў дыханні, у выніку жыццё можа падтрымлівацца толькі штучнай вентыляцыяй лёгкіх і штучным харчаваннем. Звычайна ад выяўлення першых прыкметаў БАС да смерці праходзіць ад трох да пяці гадоў.

## На магчымасці выйсці з дому паставілі крыж

У 2014 годзе мне быў пастаўлены дыягназ «хвароба маторных нейронаў» (ХМН), таксама вядомая як БАС. У ліпені 2018 года я звярнуўся ў адміністрацыю Ленінскага раёна Мінска з просьбай усталяваць у пад'ездзе пандус для з'езду інваліднага вазка па шасці прыступках ад ліфта да ўваходных дзвярэй у пад'езд, бо я ўжо не мог самастойна выходзіць на вуліцу. Упраўленне сацыяльнай абароны адказала, што ў маім выпадку трэба ўсталяваць электрычны пад'ёмнік, але грошай на гэта няма, і ў 2018 годзе не будзе, і што трэба чакаць 2019 год.

А начальнік аддзела сацыяльнай абароны Ленінскага раёна Мінска прапанаваў мне самому вырашыць пытанне стварэння безбар'ернага асяроддзя.

Мы з жонкай накіравалі шматлікія звароты ў розныя інстанцыі, у якіх звярталі ўвагу на тое, што хвароба пастаянна прагрэсуе, і што праз некалькі месяцаў пад'ёмнік ужо не спатрэбіцца. Нам паведамілі, што грошы на пад'ёмнік у кастрычніку 2018 года ўсё ж выдзелілі, але неабходна распрацаваць праектна-каштарысную дакументацыю, а затым прайсці яе дзяржаўную экспертызу, і толькі пасля гэтага «будзе праведзена працэдура па выбары падраднай арганізацыі на выкананне будаўніча-мантажных работ (арыентавана — 2 квартал 2019 года)».

Намеснік старшыні Мінгарвыканкама Юркевіч паведаміў, што да моманту стварэння безбар'ернага асяроддзя маёй жонцы «...прапанаваная валанцёрская дапамога ў арганізацыі прагулак на свежым паветры сябрамі Ленінскай раённай арганізацыі БРСМ». У студзені гэтага года жонка некалькі разоў узгадняла з гэтай арганізацыяй дату і час прагулкі, але валанцёры змаглі прыйсці толькі адзін раз. Гэта была мая першая прагулка з сакавіка 2018 года, за якую я ўдзячны тром хлопцам. Я таксама вельмі ўдзячны ім за тое, што яны змаглі ўтрымаць на лесвіцы вазок і не выпусцілі мяне разам з ім, хоць верагоднасць экстрэмальнага спуску была вельмі вялікая. У лютым валанцёры змаглі таксама толькі адзін раз дапамагчы мне са шпацырам, у сакавіку — ні разу.

Хацелася б пажадаць чыноўнікам Мінгарвыканкама, якія замест выканання сваёй працы даюць дурныя парады, самім выходзіць з дому толькі адзін раз на месяц.

А ў канцы студзеня ад ЖКГ Ленінскага раёна прыйшоў ліст, у якім гаворыцца, што «...станоўчае заключэнне РУП "Дзяржбудэкспертыза па г. Мінску" не атрымана ў сувязі з адмовай Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва ва ўзгадненні адступленняў ад нарматыўнай дакументацыі па праектнай дакументацыі. На падставе выкладзенага тэрмін атрымання заключэння экспертызы не вызначаны». Так нейкі офісны работнік паставіў крыж на маёй магчымасці выйсці з хаты.

Але думаецца мне, што тут праблема не ў адным чыноўніку, а ў дзяржаўнай сістэме, дзе няма ні сродкаў, ні жадання дапамагаць людзям з інваліднасцю.

З просьбай дапамагчы вырашыць пытанне са з'ездам мы з жонкай звярталіся ў шматлікія дзяржаўныя ўстановы, якія адфутбольвалі нашы звароты, нават не разглядаючы іх.

А ў гэты час у Гомелі, на беразе ракі Сож, да прыезду кіраўніка дзяржавы ў кастрычніку 2018 года, у сціслыя тэрміны, працуючы днём і ноччу, збудавалі грандыёзную прыбіральню коштам у мільён долараў ЗША. І, вядома, з электрапад'ёмнікам для вазочнікаў. Упэўнены, што з праходжаннем экспертыз тут было ўсё ў парадку. Засмучае толькі тое, што пасля ад'езду кіраўніка краіны гэтую прыбіральню зачынілі.

## Прыгожыя літары важнейшыя за магчымасць дыхаць

Восенню 2018 года з прычыны прагрэсавання хваробы ў мяне з'явіліся праблемы з дыханнем. Лекары парэкамендавалі набыць апарат штучнай вентыляцыі лёгкіх. Самы просты апарат каштуе ў Беларусі 5 тысяч долараў (набываць яго трэба за ўласныя сродкі), хоць у суседняй Польшчы ўразброд ён каштуе 2,5 тысячы долараў. З дапамогай супрацоўнікаў Офіса па правах людзей з інваліднасцю я накіраваў у Міністэрства аховы здароўя заяву з просьбай паведаміць, дзе можна ў Беларусі купіць апарат, на той выпадак, калі прыйдзецца разглядаць варыянт экстранага яго набыцця.

Атрыманы ад першага намесніка міністра Піневіча адказ заслугоўвае таго, каб яго працытаваць: «Ажыццявіць набыццё апарата неінвазіўнай вентыляцыі лёгкіх Вы можаце ў любой гандлёвай арганізацыі, якая спецыялізуецца на продажы дадзеных медыцынскіх вырабаў». Быццам гаворка ідзе пра звычайную зубную шчотку.

У Мінску 5 красавіка 2019 года Лукашэнка ўрачыста адкрыў новы будынак Вярхоўнага суда, на якім вялікімі літарамі выкладзена: «ВЯРХОЎНЫ СУД РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ». 29 літар і герб каштуюць 112 тысяч долараў. Кожная такая літара каштуе даражэй, чым апарат неінвазіўнай штучнай вентыляцыі лёгкіх. Грошай, што пайшлі на гэтыя літары, хапіла б, каб забяспечыць апаратамі ШВЛ усіх хворых на БАС краіны (у іншых краінах апараты ШВЛ хворым прадстаўляюцца бясплатна). Такіх хворых у нас больш за 200. Улічваючы працягласць хваробы ад 3-х да 5-ці гадоў і тое, што апарат патрабуецца на фінальнай стадыі хваробы і падаўжае жыццё да 5-ці месяцаў, 30-ці апаратаў хапіла б усім, хто мае ў іх патрэбу. Пасля смерці хворага апаратам можа карыстацца іншы чалавек.

Кошт фантана з асвятленнем перад новым будынкам суда складае 300 тысяч долараў — гэтыя грошы павінны былі пайсці тым, хто жыве ў нястачы і хворым з іншымі цяжкімі захворваннямі. А колькім хворым дзецям можна было б дапамагчы, калі б гэтую будоўлю адклалі!

## Прэстыж дзяржавы

У Германіі дзяржава выдаткоўвае больш за 50 тысяч еўра ў год на кожнага хворага на БАС. Гэтая дапамога ўключае ў сябе бясплатнае забеспячэнне хворых шматфункцыянальнымі ложкамі з мноствам механізмаў і электраматораў, з убудаваным электрамасажорам і іншымі неабходнымі прыладамі, бясплатнае забеспячэнне апаратамі штучнай вентыляцыі лёгкіх, персанальнымі камп'ютарамі з адмысловым праграмным забеспячэннем для цяжкахворых карыстальнікаў, інваліднымі вазкамі з электраматорамі і магчымасцю кіравання імі аслабленымі людзьмі. Хворых забяспечваюць сядзелкамі і мікрааўтобусамі, прыстасаванымі для перавозкі людзей з інваліднасцю ў вазках, і многае, многае іншае. У Германіі хворы на БАС раніцай выбірае: на які канцэрт яму з'ездзіць, які музей, які тэатр, якія спартовыя спаборніцтвы яму наведаць, у якім з паркаў палюбавацца прыродай. Мне ж даводзіцца толькі здагадвацца: ці змогуць у гэтым месяцы валанцёры хоць адзін раз дапамагчы мне выбрацца з дому ці не.

У ЗША хворыя на БАС атрымліваюць бясплатную страхоўку па праграме «Мэдыкэйр». Акрамя таго, ім прадастаўляюцца зніжкі да 50% на ўсё неабходнае, апараты ШВЛ у ЗША можна ўзяць у арэнду ў многіх дабрачынных фондах, якія таксама аказваюць псіхалагічную і юрыдычную дапамогу хворым і іх сваякам.

Рэзідэнцыяй прэзідэнтаў ЗША з'яўляецца Белы дом, пабудаваны яшчэ ў 1800 годзе. Там кіраўнікі самай вялікай краіны свету ўсе гады прэзідэнцтва жывуць са сваімі сем'ямі, працуюць, праводзяць нарады, прымаюць дэлегацыі замежных дзяржаў. І ніхто з сарака пяці прэзідэнтаў ЗША нават не думаў пра будаўніцтва палаца пад сваю новую рэзідэнцыю. У 2018 годзе прэзідэнт Дональд Трамп адмовіўся ад планаў правядзення ваеннага параду на Дзень ветэранаў, палічыўшы выдаткі на яго занадта вялікімі.

У канцы 2018 года мая жонка звярнулася ў Тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва Ленінскага раёна з заявай на аказанне матэрыяльнай дапамогі за 2018 год, да якой прыклала чэкі на выдаткі, звязаныя з хваробай, на суму больш за 300 рублёў. Гадавая дапамога была аказана ў памеры 100 рублёў. Тэрытарыяльнаму цэнтру мы заплацілі 156,5 рубля за супрацьпролежневы матрац айчыннай вытворчасці, які прадалі нам за 50% ад яго кошту. Аналагічны матрац польскай вытворчасці можна купіць у нас за 160 рублёў. Гэта значыць, польскі матрац з усімі транспартнымі і мытнымі выдаткамі і прыбыткам прадаўца каштуе ў два разы танней, чым аналагічны матрац беларускай вытворчасці, які закупляецца дзяржавай.

У лютым 2019 года ў Расіі былі прынятыя змены заканадаўства па пытаннях аказання паліятыўнай медыцынскай дапамогі. Зараз у Расіі пацыенты ўсіх узростаў, у тым ліку і дома, бясплатна атрымліваюць медыцынскія вырабы для падтрымання функцый арганізма і ўсе расходныя матэрыялы да іх (у Беларусі для дарослых усё гэта трэба купляць за свае грошы, і каштуе гэта вельмі дорага). Апроч таго прапісана права кожнага чалавека на абязбольванне: яно робіцца ўсімі магчымымі сродкамі, пры неабходнасці — нават наркатычнымі і псіхатропнымі лекавымі прэпаратамі.

У Беларусі тысячы цяжкахворых людзей і іх сваякоў чакаюць прыняцця аналагічнага заканадаўства. Але пакуль яго ў нас няма. Затое летам 2019 года ў нас будуць праводзіцца II Еўрапейскія гульні, кошт якіх ацэньваецца ў 100 мільёнаў долараў. Магчымасць папіярыцца на адкрыцці гульняў камусьці важнейшая, чым палягчэнне пакутаў тысяч цяжкахворых людзей і стварэнне ўмоваў для падаўжэння іх жыцця.

У Беларусі дапамогу хворым на БАС аказвае Сацыяльнае дабрачыннае грамадскае аб'яднанне «Геном», якое дзейнічае на дабрачыннай аснове. На сустрэчах, якія праводзяцца ГА «Геном», хворым на БАС і іх сваякам распавядаюць, як даглядаць за ляжачымі хворымі, як змагацца з пролежнямі, як карміць хворых, якія самі ўжо не могуць жаваць і глытаць, як адпампоўваць з лёгкіх макроту, і многае іншае. Заняткі праводзяцца раз у адзін—два месяцы ў Мінску ў Доме Міласэрнасці, з усёй краіны сюды прыязджаюць 10–15 хворых і іх сваякоў з тых, хто першым запісаўся на заняткі. Грошы на правядзенне заняткаў збіраюцца на дабрачыннай аснове, але сабраныя сродкі не пакрываюць каштарыс выдаткаў. Наша дзяржава самаўхілілася ад падтрымкі цяжкахворых людзей.

Я з нецярпеннем чакаю, калі ў нас будзе новы кіраўнік дзяржавы, пры якім краіна дапаможа мне пераадолець шэсць прыступак, што аддзяляюць мяне ад знешняга свету, і пры якім будзе прынята і будзе выконвацца заканадаўства аб аказанні ўсебаковай і якаснай паліятыўнай медыцынскай дапамогі ўсім цяжкахворым грамадзянам нашай краіны.

# Над усёй Беларуссю




Павел КІРЫЛАЎ

**Адпачынак для многіх беларусаў стаў бы больш танным і зручным, каб з Нацыянальнага аэрапорту «Мінск» ці з якога-небудзь рэгіянальнага можна было б лятаць лаўкостамі. Аднак чыноўнікі з айчыннай авіяперавозчыцкай галіны кажуць, што нізкабюджэтныя авіякампаніі не надта імкнуцца ў Беларусь. А тыя, у сваю чаргу, заяўляюць: іх папросту не пускаюць.**

Лаўкосты ў Беларусі лятаюць, але транзітам або выконваючы зрэдчас чартарныя рэйсы. Напрыклад, летась на таварыскі матч са зборнай Беларусі авіякампанія «Wizz Air», штаб-кватэра якой базуецца ў Будапешце, прывозіла ў Брэст венгерскіх футбалістаў і тамтэйшага прэм'ер-міністра Віктара Орбана. А вось прагнозы на арганізацыю сталых лаўкоставых рэйсаў да нашых аэрапортаў і з іх па Еўропе — несуцяшальныя. Выглядае, што ў бліжэйшыя гады беларусам давядзецца па-ранейшаму шукаць танныя авіяпералёты з Кіева, Варшавы, а перадусім з зусім блізкай Вільні, чый аэрапорт многія жартоўна здаўна называюць «Мінск–3».

## Авіяпрагнозы

Еўрапейская арганізацыя па бяспецы аэранавігацыі (Еўракантроль) гэтай зімой зрабіла прагноз да 2025 года што да долі на рынку авіяперавозак лаўкоставых рэйсаў у розных краінах. Найбольшым гэты паказчык застанецца ў Латвіі, крыху падняўшыся з 74% да 75%. Дарэчы, лідар там — авіякампанія «Airbaltic», якая займае першае месца ў Еўропе і другое ў свеце па пунктуальнасці. У Літве доля лаўкостаў на рынку вырасце з 45% да 47%, у Польшчы — з 35% да 37%, ва Украіне — з 11% да 18%.

Па дынаміцы лідарам павінна стаць Эстонія — 30% супраць цяперашніх 20%. Што да Беларусі, то добры прагноз — 3%, сярэдні — 1%. Цяпер — 0%. Гэта самы дрэнны прагнозны паказчык. Мы — адзіная краіна ў Еўропе з вялікім міжнародным аэрапортам, у якую і з якой не лятаюць лаўкосты.

Лаўкостамі (ад англійскіх словаў: low — «нізкі», cost — «кошт») называюць бюджэтныя кампаніі, якія прапануюць пералёты за нізкую плату з выключэннем з цаны квітка большасці традыцыйных пасажырскіх паслугаў — ад харчавання да правозу багажу.

Якім чынам яны эканомяць? Выкарыстанне аднатыпных самалётаў эканом-класу кшталту «Airbus A320» і «Boeing 737», што дазваляе скарачаць выдаткі на падрыхтоўку персаналу і абслугоўванне тэхнікі; мінімалістычнае самалётнае абсталяванне; спрошчаная схема продажу квіткоў з тэндэнцыяй пераходу на электронныя; павелічэнне колькасці сядзенняў за кошт скарачэння адлегласці паміж імі; аднosна кароткія, да 3 гадзінаў, палёты; выкарыстанне перыферыйных і, адпаведна, больш танных у паслугах аэрапортаў; раннія і познія палёты дзеля нізкіх аэрапортных збораў; выкананне адным самалётам некалькіх рэйсаў на дзень; дадатковыя даходы праз продаж тавараў і паслугаў на борце; сумяшчэнне персаналам некалькіх функцыяў — сцюардэсы могуць таксама прыбіраць салон і рэгістраваць пасажыраў на рэйс. Ну і, само сабой, маркетынгавыя хады — напрыклад, акцыі ранняга рэзервавання квіткоў па нізкіх коштах без магчымасці адмены.

Дык чаму ўсё гэта не могуць рабіць тыя самыя папулярныя лаўкосты «Ryanair» і «Wizz Air» у нас?

## Лаўкост прызямліцца ў Гародні?

Самі лаўкост-кампаніі наракаюць на малы пасажырапаток. Прычым, ён павінен быць сталы і круглагадовы. Пакуль у Беларусі добра запатрабаваным можна назваць толькі рэйс Мінск — Масква, які выконвае «Белавія» і на якія даволі недарагія квіткі.

Другі момант — памеры аэрапортавых тарыфаў. Расійскі лаўкост «Победа» некалькі разоў спрабаваў зайсці на беларускі рынак, у прыватнасці арганізаваць рэйс з Санкт-Пецярбургу да Мінска, але ў выніку не змог дамовіцца з Нацыянальным аэрапортам «Мінск» на прыяльныя для сябе тарыфы па абслугоўванні. Для замежных авіякампаніяў яны вышэйшыя, чым для сваёй «Белавія». Расійскі бок кажа, што акурат «Белавія» як манапаліст і супраць іх зніжэння для канкурэнтаў.

Не хочуць улады пакуль і даваць бюджэтныя датацыі на авіяперавозкі. Дырэктар Дэпартамента авіяцыі Міністэрства транспарту і камунікацыяў Арцём Сікорскі нядаўна заявіў, што не мае сэнсу датаваць замежнага перавозчыка, калі ёсць уласны: «Ёсць інтарэс захаваць свайго нацыянальнага перавозчыка, са сваімі лётчыкамі, са сваімі інжынерамі. Многія краіны адмовіліся ад свайго нацыянальнага перавозчыка — і чым цяпер займаюцца? Просяць: «Прыйдзіце хоць хто-небудзь, злятайце да нас». Мы змаглі сваю нацыянальную авіякампанію не толькі захаваць — яна абсалютна канкурэнтаздольная. І вельмі магутна глядзіцца на рынку. Сапраўды, нацыянальны перавозчык — гэта элемент гонару!»

Разам з тым, ён прызнае, што пытанне датацыяў спецыфічнае і дыскусійнае: «Лаўкост-кампаніі просяць не толькі зніжкі, але і пэўны працэнт ад продажаў у дзьюці-фры. І з нашага боку перамовы таксама могуць закранаць пэўныя пытанні. Напрыклад: вы можаце лятаць, не плацячы за абслугоўванне ў аэрапорце, але тады прывязіце нам 10 тысяч турыстаў. Мы ў гэтым зацікаўленыя. Тады ў працэс павінна ўступаць Міністэрства спорту і турызму. Калі рэгіён зацікаўлены — можна дамаўляцца. Добры прыклад: «Белавія» лятае ў курортныя гарады краінаў Балтыі, дзе мясцовыя ўлады прымяняюць датацыі».

# Навошта нам

Міраслаў ГАЖЭЦКІ

**У Беларусі з 21 па 30 чэрвеня пройдуць другія Еўрапейскія гульні. Улады пазіцыянуюць іх як адну з галоўных іміджавых падзеяў 2019 года — турыстычна-эканамічнага і спартова-палітычнага кшталту. Аргкамітэт па правядзенні Еўрагульняў ачольвае прэм'ер-міністр Сяргей Румас, а кіраўнік краіны і па сумяшчальніцтве Нацыянальнага алімпійскага камітэту Аляксандр Лукашэнка ў сваёй звыклай манеры папярэджвае функцыянераў пра наступствы правалу.**

Але што ўсцешнага з хуткага відовішча нам — і як падаткаплатнікам, і як заўзятарам? Колькі будуць каштаваць гэтыя спаборніцтвы і ці сапраўды акупяцца, як публічна планавалі ўлады? І ці Еўрапейскія гульні кацірующца так, што нам варта чакаць плыні турыстаў і значнай цікаўнасці тэлегледачоў?

## Прызавое марнатраўства

Вялікай колькасці «зорак» спорту на гэтых гульнях не будзе. Статус Еўрагульняў — факультатыўна-адборачныя спаборніцтвы. У 8 відах спорту з 15 у Мінску будуць разыграныя ліцэнзіі для ўдзелу ў Алімпійскіх гульнях 2020 года ў Токіа. І толькі двубоі ў боксе і дзюдо пройдуць у рангу чэмпіянатаў Еўропы. А шэраг спаборніцтваў будуць досыць экзатычныя — самба, аэробіка, баскетбол 3 на 3.

Аднак уладам Беларусі патрэбны бразгат шматлікіх медалёў, заваяваных на іх. Напрыканцы мінулага года, у снежні, на нарадзе па развіцці летніх відаў спорту Лукашэнка запатрабаваў ад чыноўнікаў ад спорту: «Не дай Бог, вы правалiцеся на гэтых гульнях — вам у краіне месца няма! Вы абіралі віды спорту, я вам забяспечыў калідор, еўрапейцы пагадзіліся. Давайце вынік!»

На першых Еўрапейскіх гульнях 2015 года медалі заваявалі 68 беларускіх спартоўцаў. У медальным камандным заліку гэта было сёмае месца. Для параўнання: ад 1994 года з зімовых і летніх Алімпіядах мы прывезлі крыху меней за сотню ўзнагародаў. Па-першае, гэта ілюструе ўзровень канкурэнтнасці на спаборніцтвах, а па-другое, гэтая статыстыка вельмі важная для калькуляцыі прызавых грошай за медалі на Еўрагульнях, якія збірaецца выплаціць дзяржава.

Міністр спорту Сяргей Кавальчук для пераможнага заахвочвання заявіў аб прапанове, каб прызавыя для беларускіх медалістаў на Еўрапейскіх гульнях–2019 былі прыроўненыя па памерах да алімпійскіх. На апошніх Алімпіядах гэта былі 150 тысячаў долараў за залаты медаль, 75 тысяч — за сярэбраны і 50 тысяч — за бронзавы. Натуральна, на хатніх Еўрагульнях беларусы заваююць медалёў болей, чым чатыры гады таму, тым больш, што самі, як гаспадары, складалі праграму спаборніцтваў з відаў спорту. У выніку сума павінна атрымацца з прызавых больш за 5 мільёнаў долараў. Ці гэта не марнатраўства бюджэтных грошай разам з дэвальвацыяй статуснай каштоўнасці медалёў!? Дый для народа медалісты Еўрагульняў будуць не героямі, а халяўшчыкамі!

## Турыстычны калькулятар

Еўрапейскія гульні — дарагое задавальненне. Дастаткова сказаць: спачатку планавалася, што сёлетнія спаборніцтвы пройдуць у Галандыі, але там, прыкінуўшы выдаткі, адмовіліся. А першыя Еўрагульні правёў багаты на нафту Азербайджан.

Дый каштарыс выдаткаў, які агучваюць улады Беларусі, увесь час расце. Апошняй называлася сума 110 мільёнаў долараў. І вельмі верагодна, выніковыя выдаткі павялічацца, бо Сяргей Румас ужо панаракаў на тое, што з прыцягненнем буйных міжнародных спонсараў атрымліваецца ўсё далёка не так, як меркавалася. Сярод прэміум-партнёраў на сайце мінскіх Еўрапейскіх гульняў па-ранейшаму значыцца толькі наш «Беларуськалій».

Аналітык-міжнароднік, эксперт Цэнтра новых ідэяў Змiцер Лысюк зазначае: «Здаецца, у параўнанні з Азербайджа-

**Паколькі Еўрапейскія гульні не выглядаюць на прэстыжныя спартовыя спаборніцтвы, не выпадае чакаць надзвычайнага прыбыцця ў чэрвені турыстаў. Хаця ўлады зрабілі для гэтага ўсё магчымае — у тым ліку пашырылі фармат бязвізавага наведвання нашай краіны замежнікамі**

# дарагое неба



У Міністэрстве транспарту Беларусі які ўжо год даводзяць, што былі б радыя прыходу лаўкостаў і гатовыя весці з імі перамовы. Па коштавай палітыцы і не толькі: хаця ў Беларусі няма рэжыму «Адкрытае неба», зацікаўленым перавозчыкам гатовыя прадаставіць пэўныя паветраныя свабоды.

Міністр транспарту і камунікацыяў Аляксей Аўраменка кажа, што прыход лаўкостаў прадугледжаны нават праграмай развіцця рэгіянальных аэрапортаў, якія цяпер актыўна мадэрнізуюцца: «Мы прапрацоўваем пытанне базавага абласнога аэрапорта для лаўкост-кампаніяў, якія могуць прыйсці ў Беларусь».

**Лаўкост-кампаніі просяць не толькі зніжкі, але і пэўны працэнт ад продажаў у дзьюці-фры. І з нашага боку перамовы таксама могуць закранаць пэўныя пытанні. Напрыклад: вы можаце лятаць, не плацячы за абслугоўванне ў аэрапорце, але тады прывязіце нам 10 тысяч турыстаў**

Паводле яго словаў, канкрэтны горад для гэтага пакуль не абраны. Але раней чыноўнікі найчасцей разважалі, што гэта можа быць Гродна, бо гэта дазволіць перавабіць частку беларускага пасажырапатоку з Вільні. Хаця пераважная большасць беларусаў, якія лятаюць са сталіцы Літвы, — гэта жыхары Мінску. Ім хіба зручней і хутчэй дабрацца датуль, чым да Гродна? Затое Гродна з аэрапортам можа зацікавіць палякаў з Беласточчыны, дзе няма свайго аэрапорта.

У прадпрыемстве «Белаэранавігацыя», на балансе якога знаходзяцца нашы рэгіянальныя аэрапорты, кажуць: «Калі разглядаць сітуацыі на прыкладзе аэрапорта «Гродна», то ў «загружаны» дзень ён прымае да трох самалётаў. Але рэальная магутнасць яго разлічаная на пасажырапаток у 200 чалавек на гадзіну!» Паведамлялася нават, што вядуцца перамовы са згаданай латвійскай «AirBaltic». Праўда, эксперты кажуць, што гэта не чысты лаўкост, а, хутчэй, гібрыдная авіякампанія.

Разглядаюцца як варыянты і аэрапорты ў Брэсце, Магілёве і Гомелі, які, дарэчы, мог бы быць папулярным у расійскіх і ўкраінскіх падарожнікаў. А вось для беларусаў любых рэгіёнаў, канешне, найбольш зручна было б лятаць лаўкостамі з Мінску. Выглядае на тое, што самым слушным рашэннем тут было б аддаць усё на самарэгуляцыю рынку. Хай бы пасажырапаток фармаваўся натуральным чынам: спажывец вырашаў бы сам, як яму ляцець — «Белавія» з багажом і харчаваннем ці лаўкостам з адным заплечнікам ды пляшкай вады.

### Гібрыдная «Белавія»

Але, гледзячы па ўсім, Нацыянальны аэрапорт прынцыпова не збіраецца працаваць з таннымі авіякампаніямі. «Мы абралі іншы кірунак. У нас усё ж Нацыянальны аэрапорт «Мінск». Ён павінен развівацца па класічных узорах. А лаўкост-кампанія прывезла ў канчатковы пункт — і далей твае праблемы. У Парыжы некалькі аэрапортаў, але лаўкост-кампаніі ляцяць не ў «Шарль дэ Голь», а за 90 кіламетраў ад сталіцы Францыі», — гэта пазіцыя гендырэктара аэрапорта Дзмітрыя Мелікяна.

У 2018 годзе ў галоўным аэрапорце Беларусі былі абслужаныя больш за 4,5 мільёна пасажыраў — на 10% болей, чым пазалетась. Колькасць самалётавылетаў — больш за 26 тысяч, што амаль на 7% болей, чым у 2017 годзе. Мяркуецца, што сёлета паказчыкі палепшацца.

Абмяркоўваецца пытанне дазволіць продаж безбагажных квіткоў на рэйсы «Белавія», як гэта зробіць з красавіка «Аэрафлот». Цяпер увесці такія білеты немагчыма, бо патрэбна ўнесці адпаведныя змены ў Паветраны кодэкс. Паводле папярэдніх разлікаў, у такім разе квіток на самалёт можа патаннець на 10–15 еўра. Зважаючы на намеры і на тое, што пачасціліся акцыйныя распродажы, можна зрабіць выснову, што «Белавія» ўзяла курс на эвалюцыянаванне ў гібрыдную кампанію. Пры з'яўленні ж яшчэ і лаўкоста ў нейкім абласным цэнтры беларусаў могуць чакаць — як вынік канкурэнцыі — вельмі прывабныя кошты на палёты.

# Еўрапіяда?



нам, дзе правядзенне гульняў каштавала 1,12 мільярда долараў, грошы, выдаткаваныя на Еўрапейскія гульні ў Беларусі, не крытычныя. Аднак іх можна было б пусціць на штосьці больш карыснае. Напрыклад, міністр фінансаў не ведае, дзе сёлета знайсці грошы на павышэнне заробкаў».

Актуальнае, на яго думку, пытанне — наколькі эфектыўна выдаткоўваюцца народныя грошы. Так, кошт камплекта адзення валанцёра — амаль 500 долараў. Для параўнання, камплект формы львоўскіх валанцёраў на футбольным турніры Еўра–2012 абышоўся ў 50 долараў.

Ці не зашыкоўна праводзіць цырымоніі адкрыцця і закрыцця Еўрапейскіх гульняў у Мінску за 12 мільёнаў долараў? Адпаведны тэндар выйграла група кампаній вядомага расійскага кампазітара і прадзюсара Ігара Крутога. Хаця зноў жа — гэта значна танней, чым адкрыццё Еўрагульняў–2015 у Баку: з 95 мільёнаў долараў на гэтае відовішча, 2 мільёны пайшлі толькі на выступ Лэдзі Гагі. Дарэчы, квіткі на цырымонію адкрыцця гульняў на рэканструяваным мінскім стадыёне «Дынама» каштуюць ад 150 да 300 рублёў. Уваход на спаборніцтвы ацанілі ад 5 да 50 рублёў.

Паколькі Еўрапейскія гульні не выглядаюць на прэстыжныя спартовыя спаборніцтвы, не выпадае чакаць надзвычайнага прыбыцця ў чэрвені турыстаў. Хаця ўлады зрабілі для гэтага ўсё магчымае — у тым ліку пашырылі фармат бязвізавага наведвання нашай краіны замежнікамі. Цягам месяца, уключаючы паўтара тыдні да і пасля гульняў, тыя могуць патрапіць у Беларусь праз любы міжнародны пераход, а таксама праз Расію, маючы квіток на любое спаборніцтва. Хаця б на самае шараговае, за 5 рублёў. Нагадаем, паводле правілаў звычайнага «бязвізу», нашу краіну можна наведаць толькі самалётам праз Нацыянальны аэрапорт «Мінск». Да ўсяго зроблена яшчэ такая палёгка, як вызваленне ад спагнання збораў за праезд па платных аўтадарогах.

Каб ацаніць спартова-турыстычную цікавасць на еўрагульнявую чэрвеньскую дэкаду, «Новы Час» вывучыў кошты на мінскія апартаменты на гэты перыяд праз сусветна вядомыя папулярныя сэрвісы арэнды жытла. За тры месяцы да спаборніцтваў прапаноў, прычым па стандартных коштах, шмат. Хаця ёсць варыянты з яўна ўзнятым цэннікам. Арэндадаўцы кажуць, што ажыятажу, які быў перад Чэмпіянатам свету па хакеі ў Мінску ў 2014 годзе, няма. Хаця краінаў-удзельніц Еўрагульняў значна болей. На хакей прыехала каля 80 тысяч замежнікаў, цяпер, як прагназуецца, добра, калі Беларусь наведае палова ад гэтай колькасці.

### Еўрамарафет

Канешне, факт правядзення Еўрагульняў, адпаведная прома-кампанія, тэлетрансляцыі спаборніцтваў і фотаздымкі турыстаў у сацсетках у абдымках з талісманам гульняў — лісянём Лесікам — працуюць на пашырэнне вядомасці Беларусі і на яе турыстычны патэнцыял. Частка выдаткаў на арганізацыю Еўрагульняў адаб'ецца з адтэрмінаваным плёнам, але перабольшваць разлікі не варта. Тым больш, што і сёння ніхто не скажа, у колькі ў выніку абыдзецца Беларусі гэтая Еўрапіяда.

Дарэчы, да пачатку другіх Еўрапейскіх гульняў будзе названая сталіца трэціх, якія пройдуць у 2023 годзе. У розны час у якасці прэтэндэнтаў называліся англійскі Манчэстар, ізраільская Хайфа, польскія Катавіцы, але цяпер у якасці верагоднага месца правядзення фігуруе толькі расійская Казань. Цікава, што ёсць яшчэ адны Еўрагульні, вядомыя якраз пад такім скаротам. Іх рэгулярна ладзіць, а сёлета — у Рыме, Еўрапейская федэрацыя ЛГБТ-спорту. Афіцыйная назва спаборніцтваў — Еўрапейскія мультыспартовыя спаборніцтвы геяў і лесбіянак. У 2016 годзе ўдзел у іх узялі болей за 300 чалавек у 14 відах спорту.

Не трэба забывацца і на станоўчы эфект атмасферы еўрапеізацыі і разняволенай фестывалізацыі, які адзначалі многія жыхары сталіцы ў час Чэмпіянату свету па хакеі пяць гадоў таму: натоўпы турыстаў у горадзе, стракатасць розных сцягоў, магчымасць камунікацыі з прадстаўнікамі розных нацыяў. Дарэчы, гэта спрыяе і вывучэнню беларусамі замежных моваў, з якімі ў нас праблема нават у працаўнікоў сферы абслугоўвання: у тых самых крамах замежнікам часцяком даводзіцца стасавацца з прадавачкамі жэстамі. Адмысловыя моўныя курсы да спаборніцтваў ужо прайшлі некалькі соцень супрацоўнікаў міліцыі.

Хіба на карысць пойдзе і прынагодны метад «Дажынак», калі марафецілі малыя гарады, у якіх яны ладзіліся. Напярэдадні Еўрапейскіх гульняў праводзіцца рамонт і рэканструкцыя спартовых аб'ектаў, а таксама сацыяльна-культурнай інфраструктуры.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ІСПАНІЯ. Перасварыліся праз Магелана



У верасні гэтага года будзе адзначацца 500 гадоў з пачатку першай экспедыцыі вакол свету, якой, як вядома, кіраваў Фернан Магелан. Фінансавала той вояж Іспанская імперыя. Адпаведна, над караблямі лунаў іспанскі сцяг. Аднак сам Магелан быў партугальцам, што праз пяць стагоддзяў раптам узгадалі яго суайчыннікі. Такая трактоўка гісторыі выклікала абурэнне часткі іспанскага грамадства. А некаторыя іспанскія правыя палітыкі нават зрабілі гэту тэму часткай сваёй цяперашняй парламенцкай кампаніі. Яны здолелі дамагчыся, каб мясцовая каралеўская акадэмія прыняла катэгарычную заяву пра іспанскі патранат над Магеланам. Такая катэгарычнасць, у сваю чаргу, абурыла партугальцаў, якія ўпарта называюць згаданую экспедыцыю партугальскай. Праўда, урад сацыялістаў, які зараз кіруе ў Мадрыдзе, вырашыў шукаць дыялог і прапанаваў Лісабону палову ўрачыстасцяў, прысвечаных юбілею, правесці ў Партугаліі. Прапанова, быццам, слушная, аднак не выключана, што ў красавіку на выбарах у Іспаніі пераможуць правыя, якія перагледзяць фармат святаў на карысць Мадрыду. Застаецца дадаць самае смешнае — Магелан не збіраўся плыць вакол зямлі. Мэтай яго маршруту быў адзін з астравоў цяперашняй Інданезіі, аднак праз кепскае надвор'е ў Індыйскім акіяне ў Еўропу маракі вырашылі вяртацца праз Ціхі акіян.

**Паводле іспанскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. За Бугам таксама «па пяцьсот»

500 злотых за карову і 100 злотых за свінню. Такі памер кампенсацыі фермерам прапанаваў лідар польскай кіруючай партыі «Права і Справядлівасць» (PiS) Яраслаў Качыньскі. За кошт датацый урад, відавочна, мае намер суцішыць пратэсты фермераў, незадаволеных аграрнай палітыкай урада. Нягледзячы на шырокі жэст Качыньскага, ідэя субсідый выклікала супярэчлівую рэакцыю. Паўстала пытанне — адкуль грошы на такі атракцыён шчодрасці? Напярэдадні чыноўнікі адмовіліся павышаць заробкі настаўнікам-страйкоўцам праз дэфіцыт бюджэтных сродкаў. Адсюль вельмі папулярны жарт — кожны настаўнік павінен завесці сабе дзве каровы, што дазволіць аўтаматычна павысіць свой дабрабыт і, адпаведна, спыніць страйк. Іншыя незадаволеныя — чаму Качыньскі не хоча даваць грошы за ўтрыманне курэй або трусоў? Зрэшты, шмат яшчэ незразумелага з тымі кампенсацыямі. Качыньскі, калі абяцаў субсідыі, не ўдакладніў — будзе падтрымка разавай або пастаяннай. Калі фермерам выплацяць за кароў і свіней толькі адзін раз, хутчэй за ўсё, мы маем справу з палітычнай рэкламай PiS напярэдадні восеньскіх выбараў.

**Паводле польскай прэсы**

### ГРУЗІЯ. Брытанія выходзіць — Грузія ўваходзіць?



Прэзідэнт Грузіі Саламэ Зурабішвілі заявіла, што «Brexit дае шанц для Грузіі атрымаць сяброўства ў ЕС». Тбілісі, паводле яе словаў, павінен «скарыстацца магчымасцю, якую дае выхад Вялікабрытаніі з ЕС, і высунуць свае аргументы на карысць уваходжання ў яго склад». Логіка грузінскага гаранта наступная: «З краінай, якая няўхільна імкнецца ў Еўропу і хоча ўвайсці ў яе склад, не павінны абыходзіцца горш, чым з краінай, якая ўвесь час аддаляецца ад Еўропы». Пры гэтым прэзідэнт Грузіі нагадала, што летам у Батумі адбудзецца канферэнцыя лідараў ЕС, якая можа дапамагчы краіне ў гэтым імкненні. Ініцыятыва Зурабішвілі ўяўляе цікавасць у тым ліку таму, што Грузія — не першая краіна, якая збіраецца па апісанай вышэй формуле заскочыць у ЕС. Раней з такой ініцыятывай выступілі ў Вярхоўнай Радзе Украіны, прапанаваўшы ЕС «зগляць на апярэджанне», замяніўшы Вялікабрытанію Украінай. А яшчэ раней падобныя развагі гучалі ў Турцыі, якая, у адрозненне ад Грузіі і Украіны, мае шматгадовы вопыт узаемадзеяння з ЕС. Зрэшты, эксперты згаджаюцца, што лепшыя шанцы сярод гэтай тройкі сапраўды ў Грузіі — маленькай і хрысціянскай краіны. З іншага боку, сумнеўна, што ЕС будзе пашырацца на Усход, пакуль не інтэгруе ў свой склад балканскія краіны. Варта таксама ўзгадаць, што днямі тая ж Зурабішвілі заявіла, што 64 працэнты мяжы Грузіі з Азербайджанам не вызначаныя. Наўрад ці без заканчэння гэтага працэсу можна разлічваць на сур'ёзную размову з Брусэлем.

**Паводле грузінскай прэсы**



Фота www.photographers.ua

# Казахская атамная

Алег НОВІКАЎ

**На сустрэчы з новым прэзідэнтам Казахстана Касым-Жамартам Такаевым Пуцін прапанаваў дапамогу ў пабудове мясцовай АЭС. Многія казахі ўбачылі ў словах кіраўніка Расіі геапалітычны падтэкст.**

У Казахстане папулярны жарт пра тое, што жыхароў Алматы можна вызначыць па рэакцыі на падземныя штуршкі. Сапраўдны жыхар горада павінен рэагаваць на іх словамі: «Нешта я нічога не адчуў». Гэты жарт у тым ліку сведчыць пра тое, што старая сталіца Казахстана знаходзіцца ў сейсмічна актыўным раёне. Невыпадкова Назарбаеў, калі лабіраваў праект з пераносам сталіцы, асабліва падкрэсліваў гэты момант. Самы моцны ў гісторыі Сярэдняй Азіі землятрус быў зафіксаваны менавіта ў раёне Алматы. У 1910 годзе землятрус з інтэнсіўнасцю ў эпіцэнтры 10–11 балаў знішчыў усе будынкі ў Верным (тагачасная назва горада).

У кантэксце згаданага, мякка кажучы, дзіўна, што казахскім Астраўцом наканавана стаць пасёлку, які знаходзіцца ў Алмацінскай вобласці. Гаворка пра населены пункт Улькен, які быў заснаваны ў сярэдзіне 1980-х гадоў дзеля запланаванага будаўніцтва побач ГРЭС. Станцыю ў выніку так і не пабудавалі, але і насельніцтва не вымерла. Сёння Улькен уяўляе сабой комплекс бетонных пяціпавярховікаў, дзе жывуць прыкладна дзве тысячы чалавек.

Пра тое, што Улькену наканавана быць горадам атамшчыкаў, загаварылі пару гадоў таму. Да гэтага станцыю планавалі размясціць спачатку на возеры Балхаш, а потым на беразе Каспія. Аднак усе падобныя прапановы тарпедавала калектыўная памяць казахаў пра Сяміпалацінскі палігон, дзе ў часы СССР выпрабоўвалі атамную зброю. Прыкладна за 50 гадоў на палігоне было падарвана каля 500 ядзерных фугасаў, што заканамерна негатыўна адбілася на здароўі тутэйшых людзей. Дастаткова прачытаць вынікі даследаванняў за 1989 год, паводле якіх амаль 50% дзяцей вобласці пакутавала на хранічныя захворванні. Разумовая адсталасць дзяцей па вобласці была ў тры разы вышэй за рэспубліканскі ўзровень. Прычым мутацыі, якія выклікала радыяцыя ад ядзерных выпрабаванняў на Сяміпалацінскім палігоне, перадаюцца і ўнукам.

Памяць пра Сяміпалацінск нікуды не знікла і пасля 20 гадоў пасля закрыцця палігона. Інакш бы казахі так негатыўна не адрэагавалі на ідэю Пуціна наконт казахскай АЭС, якую той агучыў у рамках рандэву з Такаевым падчас візіту апошняга ў Маскву. А казахскія ўлады, гледзячы на першую рэакцыю, пазітыўна ўспрынялі прапанову пра АЭС.

У адказ казахскі інтэрнэт літаральна выбухнуў. У сетцы ўспомнілі не толькі Сяміпалацінск. Будаўніцтва новай атамнай станцыі, на думку яе крытыкаў, каштуе некалькі мільярдаў долараў. Аднак ёсць сумнеў, што сёння самы прыдатны час для такіх супердарагіх праектаў.

«Нацпаты» (такім скарачэннем ад слова «нацыянал-патрыёт» называюць казахскіх нацыяналістаў) указваюць на тое, што для Расіі будаўніцтва АЭС — гэта не толькі эканамічнае, але і палітычнае пытанне. Дзяржава, якая прасоўвае свой атамны рэактар іншай дзяржаве, разлічвае прывязаць свайго партнёра на доўгія гады рознымі абавязацельствамі, рыхтуючы спецыялістаў толькі ў Расіі, закупляючы тэхніку толькі расійскую і прапануючы шматгадовае тэхніка-сэрвіснае абслугоўванне толькі пры ўдзеле Расіі. Замест АЭС заклікаюць навесці парадак у газавым сектары, які лічыцца гняздом карупцыі.

Урад імкнецца падавіць радыяфобію абяцаннем правесці кансультацыі, грамадскія слуханні і ўзгадненні. У тым ліку з жыхарамі Улькена. Для заспакаення «нацпатаў» засяроджваецца ўвага на тым, што Казахстан сам вядзе здабычу ўрану, здольны выраблять атамнае паліва, то-бок, ступень залежнасці ад Масквы будзе не такой крытычнай, як у выпадку з той жа БелАЭС. Ну і, нарэшце, як звычайна ў такіх выпадках, у ход ідзе вядомы рытарычны прыём. Праўладныя каментатары нагадваюць крытыкам АЭС пра тое, што праз ДТЗ у Казахстане штогод гіне дзве з паловай тысячы чалавек. Маўляў, калі ўжо і асцерагацца небяспечных для людзей тэхналогій, дык перш за ўсё трэба адмовіцца ад аўтамабіляў.

У любым выпадку, дэбаты наконт АЭС — унікальны выпадак для Казахстана, дзе пераважная большасць імкнецца трымацца далей ад палітыкі. А вось «антыатамны сіндром» назіраецца не толькі сярод свядомых юзераў, але і сярод простых грамадзян. Хаця, з улікам слабасці інстытутаў грамадзянскай супольнасці, пакуль цяжка ўявіць, як віртуальны пратэст выйдзе ў рэал. Зрэшты, у прэсе не выключаюць далучэння да канфлікту фракцыі бізнес-эліты, якая нейкім чынам атрымлівае профіт у вугальнай або газавай сферах і, як вынік, не зацікаўленая ў развіцці атамнага сектара. Пішуць, што тая фракцыя можа стаць спонсарам маштабнай антыатамнай кампаніі.

Нарэшце, не выключаны варыянт, што ўся эпапея з казахскай АЭС скончыцца банальным распілам грошай. Дастаткова прыгадаць, што пару гадоў таму ў Казахстане збіраліся запусціць тэрмаядзерны рэактар, які, дарэчы, таксама быў пабудаваны пры ўдзеле расійскіх кампаній. На рэактар было выдаткавана бездань бюджэтных грошай, аднак дасюль цалкам не зразумела, што атрымалася ў выніку.

# Магніцікі выратуюць Канстанцінопаль?

Алег НОВІКАЎ

**Хрысціянскі свет не на жарт напалоханы заклікамі турэцкага кіраўніка ператварыць Святую Сафію Канстанцінопальскую ў дзеючую мячэць.**



Вярнуць крыж над купалам храма Святой Сафіі! На думку некаторых гісторыкаў, менавіта гэта мэта не давала спакою Захаду пачынаючы аж з 1453 года, калі, пасля захопу асманамі візантыйскай сталіцы, адна з галоўных святынь хрысціянства была ператвораная ў мячэць. Нягледзячы на тое, што ў 1935 годзе мячэць стала музеем, а часы крыжовых паходаў і падзелаў Турцыі, здавалася, засталіся ў мінулым, у некаторых комплекс наконт крыжа над Сафіяй, мяркуючы па ўсім, застаўся.

Напрыклад, у 2007 годзе за акіянам паўстаў рух за вяртанне першапачатковага статусу Святой Сафіі. «Савет па вызваленні Святой Сафіі» — так называецца арганізацыя, якая нават давяла справу да слуханняў на камітэце па правах чалавека ў Кангрэсе ЗША, падчас якіх спікеры шмат казалі пра «непавагу Анкары да хрысціянства». Яшчэ далей пайшлі ў Расіі, дзе ў 2015 годзе дэпутаты Дзярждумы адкрытым тэкстам запатрабавалі ад Турцыі перадачы Сафіі пад дах праваслаўя. «Гэты крок дапамог бы Турцыі і ісламу прадэманстраваць, што добрая воля вышэйшая за палітыку. Неабходна вярнуць хрысціянам Святую Сафію», — лічыць адзін з дэпутатаў Дзярждумы.

Зрэшты, ніякіх наступстваў заявы не мелі. У тым ліку таму, што турэцкі ўрад не даваў асаблівых прычын, каб гаварыць пра «непавагу да хрысціянства». Рэлігійныя абрады ў будынку царквы былі забароненыя. Акрамя таго, улады не паддаваліся на заклікі мясцовых ісламістаў. Для часткі турэцкага палітыкуму Сафія, нават у статусе музея, з'яўляецца нямым напамінам пра хрысціянскае мінулае Стамбула, нейкім генератарам ідэі хрысціянскага рэваншу.

Стан рэчаў змяніўся толькі пасля таго, як у 2016 годзе ў Турцыі быў усталяваны рэжым асабістай улады Эрдагана, які ператварыў рэлігію ў свой палітычны інструмент. Паступова ўсё часцей гучалі асцярогі, што падчас рэісламізацыі позна ці рана справа дойдзе да Святой Сафіі Канстанцінопальскай. Так і здарылася 26 сакавіка гэтага года, калі турэцкі гарант паабяцаў трансфармаваць храм у мячэць ды заклікаў «канчаткова забыцца пра Канстанцінопаль».

Рэпліка выклікала крытычныя ацэнкі з боку праваслаўных цэнтраў і міжнародных культурных арганізацый. Напрыклад, katholisch.de — сайт нямецкіх каталікоў — прызнаваў, што Сафія ў статусе мячэці будзе азначаць поўнае сімвалічнае выгнанне з краіны праваслаўных, якіх у Турцыі сёння налічваецца каля 160 тысяч. Рэзалюцыю супраць магчымага з'яўлення ў Стамбуле мячэці Ая-Сафія прынялі турэцкія кемалісты і левыя.

Зрэшты, нейкі аптымізм захоўваўся. Лічылася, што Эрдаган успомніў пра Сафію, каб падняць свой рэйтынг напярэдадні муніцыпальных выбараў 31 сакавіка. Тым больш, ідэю мячэці шмат мусіравалі на акцыях памяці мусульман, якія загінулі падчас тэракту ў Новай Зеландыі. Аднак, мяркуючы па прэсе, і пасля выбараў (на якіх, дарэчы, партыя Эрдагана не выйграла) праблема Ая-Сафіі з парадку дня не знятая.

**У Расіі ў 2015 годзе дэпутаты Дзярждумы адкрытым тэкстам запатрабавалі ад Турцыі перадачы Сафіі праваслаўным: «Гэты крок дапамог бы Турцыі і ісламу прадэманстраваць, што добрая воля вышэйшая за палітыку»**

Як піша адзін з грэчаскіх палітолагаў, «намер кіраўніка Турцыі ператварыць Святую Сафію ў мячэць быў не проста абяцаннем перадвыбарчага характару. Намер Эрдагана «адлюстроўвае геапалітычныя змены Турцыі, якая хоча дзейнічаць як лідар мусульманскага свету і аўтаномны полюс сілы ў Еўразіі». Змянілася і сама Турцыя, якая можа адважыцца «грэбліва паставіцца да міжнароднай супольнасці і якая хоча дзейнічаць як вялікая дзяржава».

Такія асцярогі пацвярджае і заява грэчаскага МЗС ад 9 красавіка. Афіны ў сваім эмацыйным пасланні заклікаюць Анкару не чапаць храм, «паважаючы міжнароднае права, міжнародныя дамовы, а таксама суседзяў».

Самае цікавае, што праект мячэці ў Святой Сафіі не супраць падтрымаць адна з фракцый «рускага міра». «Калі Эрдагану ўдасца ажыццявіць задуманае, гэта прывядзе да паслаблення Канстанцінопальскага патрыярхату і яго дамаганняў на постсавецкай прасторы. Што, у сваю чаргу, зноў узвысіць ролю і ўмацуе пазіцыі Рускай праваслаўнай царквы», — лічыць кіраўнік цэнтра «Блізкі Усход — Каўказ» Станіслаў Тарасаў. Сапраўды, новы статус храма ставіць Фанар у складанае становішча: з аднаго боку, патрыярху Варфаламею трэба пратэставаць, а з іншага — ён з'яўляецца чыноўнікам аднаго з турэцкіх дэпартаментаў.

Ёсць думка, што рашэнне пра стварэнне мячэці можа быць прынятае ў хуткім часе як адказ Анкары на нядаўняе рашэнне ЗША прызнаць ізраільскі суверэнітэт над сірыйскімі Галанскімі вышынямі. Але, як ні смешна, спыніць Эрдагана могуць толькі магніцікі. Так-так, тыя самыя магніцікі, якія турысты купляюць падчас паездак, каб пасля прыляпіць на лядоўню ў хаце. У дадзеным выпадку магніцікі з выявай Сафіі і іншыя сувеніры на гэтую тэму — салідная крыніца папаўнення турэцкага бюджэту. Відавочна, што мячэць Святой Сафіі з асаблівым рэжымам наведвання будзе прыцягваць значна менш турыстаў. Усё гэтае дае экспертам падставы спадзявацца, што Сафія застанецца музеем як мінімум да выхаду Турцыі з эканамічнай стагнацыі, якой, дарэчы, канца пакуль не бачна.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Мігель Дыяс-Канель



Адміністрацыя прэзідэнта Кубы дазволіла першую ў краіне публічную пратэстную акцыю.

З дазволу ўлады ў мінулую нядзелю па цэнтры Гаваны прайшлі некалькі сотняў кубінцаў, якія пратэставалі супраць жорсткасці ў дачыненні да жывёл. Са сваімі гадаванцамі і адпаведнымі тэматычнымі плакатамі дэманстанты прайшлі праз цэнтр сталіцы ды выклікалі вялікі інтарэс у простых людзей і турыстаў.

Не паспела акцыя скончыцца, як афіцыёзныя калумністы заявілі пра трыумф грамадзянскіх свабодаў у краіне. Што да заходніх выданняў, дык яны іранізуюць наконт таго, што адбылося. На іх думку, трошкі камічна, што ўдзельнікі першай вольнай маніфестацыі на Кубе за апошнія амаль 70 гадоў выступалі за правы жывёлаў, а не за правы грамадзян. З іншага боку, яны пагаджаюцца, што тэма правоў жывёлаў можа стаць пралогам для паступовай актуалізацыі тэмы правоў чалавека. У тым ліку так лічыць і арганізатарка маршу, 21-гадовая Беатрыз Батыста. Яна звяртае ўвагу, што ўлада была вымушаная дазволіць марш пасля шырокай кампаніі ў інтэрнэце.

А вось старая апазіцыя з такім падыходам не згодная.

### Максім Сцяпанаў



Былы губернатар Адэскай вобласці зрабіў нябачаны раней для ўкраінскіх губернатараў дэмарш. Губернатары ва Украіне, нагадаем, прызначаюцца прэзідэнтам.

Пётр Парашэнка 8 красавіка адхіліў яго ад пасады, але Максім Сцяпанаў адмовіўся падпарадкоўвацца, бо лічыць прэзідэнцкі ўказ незаконным. Плюс Сцяпанаў дазволіў сабе шакуючую заяву: яго, маўляў, звольнілі за тое, што ў падпарадкаваным рэгіёне першы тур выбараў прэзідэнта 31 сакавіка прайшоў без подкупу выбаршчыкаў і выкарыстання адміністрацыйнага рэсурсу.

Цяпер Парашэнку трэба прыкласці намаганні, каб прыклад Сцяпанава не стаў заразлівым напярэдадні другога тура. А гэта будзе няпроста. Прэса сцвярджае, што ва ўсіх абласцях, дзе ў першым туры перамог Зяленскі, сярод чыноўнікаў разгарнулася прыхаваная барацьба за права ўзначаліць мясцовыя філіі будучай палітычнай партыі «Каманды Зе», якая, маўляў, будзе фармавацца з прыцэлам на восеньскія выбары ў Вярхоўную Раду.

Але і Зяленскаму ад такой навіны наўрад ці камфортна. Практычна ўсе адміністрацыі на Паўднёвым Усходзе на сто працэнтаў складаюцца з былых «рэгіяналаў», якія аператы́ўна перафарбаваліся пяць гадоў таму ў жоўта-блакітныя колеры, і, здаецца, цяпер гатовыя перафарбавацца зноў.

### Пабла Касада



Новы лідар іспанскай «Народнай партыі» (PP), вядучай партыі апазіцыі цяперашняму ўраду сацыялістаў, прэзентаваў выбарчую праграму PP.

Яна змяшчае шэраг навацыяў, у тым ліку і рэцэпт вырашэння пытання Каталоніі, дзе, як вядома, апошнім часам гучаць патрабаванні прадстаўлення права на самавызначэнне. Кансерватары ў выпадку прыходу да ўлады абяцаюць перагледзець статус рэгіёнаў за кошт увядзення ў органы кіравання на месцах прадстаўнікоў цэнтра. Таксама плануецца ўзмацніць фармаванні сілавікоў, якія наўпрост падпарадкоўваюцца Мадрыду. Агрэсіўнасці праграме дадалі і асабістыя заявы Пабла Касада на адрас Педра Санчаса — лідара сацыялістаў. Яму паставілі ў папрок сімпатыі да баскскай тэрарыстычнай арганізацыі ЕТА.

Зрэшты, не выключана, што Касада штучна стварае сабе сцэнічны вобраз іспанскага дзяржаўніка. Выбаршчык кансерватараў актыўна мігруе пад сцягі больш правай і папуліцкай партыі VOX. Апошняя абяцае ў выпадку перамогі ўвогуле нябачаны бонус — ліквідаваць усе нацыянальныя аўтаноміі, у тым ліку і каталонскую. На думку прэсы, гуляючы з радыкальнай фразеалогіяй, кансерватары маюць намер спыніць эрозію свайго лагеру.

Аднак, падаецца, пакуль такая лексіка дадатковых пунктаў кансерватарам не прынесла. Паводле апошніх апытанняў, сацыялісты з 30 працэнтамі папулярнасці амаль удвая абыходзяць структуру Касада (17 працэнтаў). А выбары адбудуцца ўжо 28 красавіка.

# Як Імперыя змагалася з цвярозасцю

Зміцер ЮРКЕВІЧ

**Антыалкагольны рух пачаўся з Брэстчыны і ахапіў 32 губерні колішняй «турмы народаў» — Расійскай імперыі.**



У траўні 1858 года на стол гродзенскага губернатара Івана Абрамавіча Шпеера (які быў ці не адзіным губернатарам Расійскай імперыі, што паходзіў з ахрышчаных яўрэяў) лягла дакладная цыдулка. Аўтарам яе быў даверany ад дзяржаўцаў Кобрынскага чарачнага водкупу і казённых корчмаў павета па губерні, дэрпцкі біргер Карл Клюге. Біргер скардзіўся губернатару на беларускіх сялянаў, якія паўступалі ў таварыствы цвярозасці, што прывяло да катастрафічных стратаў «пітнога промыслу», ды пакорліва прасіў спыніць ацверазенне працоўнага люду — забараніць уступаць у гэтыя таварыствы.

Скардзіцца адкупшчыкаў, шынкароў і карчмароў прымусіў размах руху. Але гэта быў толькі пачатак. Бо неўзабаве, у жніўні, ковенскія краўцы-шаўцы і сталяры цалкам аўтаномна далі зарок не спажываць алкаголь, і нават патрабавалі адзін ад аднаго сачыць за выкананнем зароку. А ў верасні затрэсла ўсю Ковенскую губерню, якая на той момант займала тэрыторыю амаль усёй сённяшняй Літвы, без Віленшчыны.

Першае жамойцкае таварыства цвярозасці, якое было афіцыйна прызнанае і трапіла ў гісторыю, стварылі на правым беразе Нёмана, у мястэчку Юрбарк — гэта была самая паўднёвая кропка губерні, і менавіта туды, пасля Брэстчыны, патрапілі першыя звесткі пра стварэнне падобных таварыстваў у Царстве Польскім. Хоць рух меў глыбокія сацыяльныя карані — злоўжыванні з боку тых, хто афіцыйна нажываўся на гандлі легальным «наркотыкам» таго часу (алкаголем): адкупшчыкаў, паноў, вертыкальшчыкаў, карчмароў, — значную ролю ў яго кадыфікацыі і распаўсюдзе адыграў каталіцкі касцёл, і нават праваслаўная царква.

Сам рух за цвярозасць, які ўзнік у ЗША, і ў пачатку XIX стагоддзя пераехаў у Ірландыю, ад пачатку меў рэлігійнае адценне. Бо менавіта святары былі яго пашыральнікамі. І ці не галоўная роля ў тым, што рух у Еўропе набыў вялікую папулярнасць, належыць ірландскаму святару Тэабальду Мэцью. З Ірландыі пратуберанцы цвярозасці перакінуліся на Англію, Францыю, Германію і іншыя краіны. І ў 1851 годзе Папа Рымскі Пій Х нават выдаў адмысловую булу, што ўхваляла паўсюднае стварэнне такіх таварыстваў. Але ў Расійскай імперыі, як заўсёды, нешта пайшло не так.

Царскі ўрад, што аддаў у рукі адкупшчыкаў стырно гандлю алкаголем, атрымаў стабільны даход, які рос год ад года. Пры гэтым злоўжыванні і шкода, якая наносілася здароўю людзей, вярхі не цікавілі. Пры кожным падвышэнні водкупу (а гаворка вядзецца пра дзясяткі мільёнаў рублёў), карчмары падвышалі кошт якаснага алкаголю, але пры гэтым, каб захаваць кошт, які прадпісвала дзяржава, — «тры рублі вядро», стваралі папраўдзе атрутныя напоі шэрага колеру (адсюль і «сівуха»), дадаючы для моцнасці, як пісалі дэмакратычныя аўтары ў расійскіх СМІ, — «атрутныя рэчывы».

Народ «роптал», але піў — наносіў шкоду сабе ды падсілкоўваў тагачасныя наркакартэлі. І тут раптам газеты пачалі пісаць, што ў Заходніх губернях (Ковенская, Віленская і Гродзенская) дзясяткі тысяч людзей за лічаныя дні склалі прысягу ў адмове ад алкаголю да канца жыцця — і для надзейнасці занеслі яе ў адмысловыя кнігі, якія былі пры храмах. Спачатку, вядома, пры касцёлах, бо насельніцтва тых земляў у асноўным было каталіцкім.

У Ковенскай губерні адзначыўся шчыраваннем біскуп Валанцэвіч. Паходзіў ён з сялянскай сям'і, добра ведаў жамойцкую мову. І таму, калі пачаўся масавы рух, ён не толькі ўсяляк яго падтрымліваў, але і стымуляваў, выдаючы на жамойцкай мове (як пісаў Дабралюбаў), адмысловую літаратуру, як свайго, так і перакладнога кшталту. І даволі значнымі накладамі — 10–40 тысяч асобнікаў.

Але пашырэнне руху не было такім бяскрыўдным, і гэта прымушала Валанцэвіча апраўдвацца перад расійскімі ўладамі. Тых, хто адмаўляўся цверазець або прысягаў і адступаўся, жамойцкія ксяндзы загадвалі караць маральна або фізічна, на свой густ. Часам «адступнікаў» мазалі дзёгцем і прывязвалі да крыжоў, выстаўляючы на смех, часам секлі розгамі, часам саджалі ў змрочныя лёхі касцёлаў ці кляштараў.

Вядома, што такімі выпадкамі карысталіся для барацьбы з рухам галоўныя іх ворагі — карчмары. Іх даносы да ўладаў, вядома, не былі аб'ектыўнымі, усё набывала гіпербалізаваны памер. І таму — як помста — неўзабаве пачаліся там і сям пагромы корчмаў. А як і чым займаўся карчмар, паказаў, верагодна аб'ектыўна, у свой час пісьменнік Мікалай Гогаль у знакамітым творы «Тарас Бульба»: «Карчма ўвогуле была страшэнным ліхам для сялянаў. Тут знікаў сялянскі дабрабыт і нярэдка губілася жыццё цэлых сем'яў. Прычым, сялянаў літаральна прымушалі піць, бо кожны пан меў бровар, гнаў спірт, і ён спускаў норму, якую селянін або мусіў выпіваць, або разлічвацца грашыма. Папраўдзе, страшны механізм знішчэння, якому няма апраўдання».

Ацверазенне ў згаданых трох губернях у 1859 годзе падтрымалі: 140 003 чалавек (Віленская), 30 000 (Віцебская), 220 140 (Гродзенская), 84 000 (Мінская). У 1860 годзе рух ахапіў ужо больш за 1 мільён 600 тысяч чалавек (улучна з Ковенскай губерняй, дзе цвярозых ад агульнай колькасці насельніцтва было 83,3%) — і страты ў скарбонцы сталі заўважнымі ўжо не толькі ў гандляроў. Прыбыткі імперыі, якая мела да траціны бюджэту з гэтых грошай, рэзка ўпалі. Таму, калі спачатку на з'яву глядзелі паблажліва ці нават ухвальна (а ў жніўні 1859 года выйшаў указ Святога Сінода РПЦ пра ўсебаковую падтрымку гэтага руху), то літаральна праз год сітуацыя пачала змяняцца.

Спрычынілася да таго тая асобая форма расійскага народнага супраціву, якая вядомая ўсім як бунт. Калі на землях былога ВКЛ распаўсюд цверазення насельніцтва меў пераважна мірны характар, хоць здаралася, што руйнаваліся і паліліся корчмы, карчмароў збівалі або гналі «взашей», то ў расійскіх губернях было крыху інакш. Па-першае, там не асабліва распаўсюджвалася ўласна цвярозасць, бо галоўным патрабаваннем ад пачатку было зніжэнне кошту алкаголю і ягонaя якасць.

Па-другое, барацьба з корчмамі, якія трымалі ў асноўным свае, «рускія людзі», бо выхад на расійскі прастор карчмароў-яўрэяў стрымлівала «мяжа аселасці», набыла больш сур'ёзныя формы. Дарэчы, часам да такіх бунтаў прыводзілі правакацыі з боку саміх адкупшчыкаў, якія пашыралі розныя прыемныя на слых чуткі (напрыклад, аб зніжэнні кошту вядра гарэлкі). І калі сяляне падманваліся ў сваіх чаканнях — надыходзіла чарга «махаць рукамі». У рапартах, якія пісаліся паліцыяй у поўнай згодзе з задумай адкупшчыкаў і таргашоў, падзея падавалася як «бунт супраць законнай улады».

Урэшце Аляксандр ІІ вырашыў паставіць кропку ў ацверазенні. Супраць бунтаўнікоў паслалі рэгулярныя войскі, падмацаваныя гарматамі. Расправа была кароткай. 11 тысяч чалавек адправілі на катаргу і ў вязніцы. Сярод іх, як падаюць беларускія гісторыкі, было 780 чалавек з беларускіх земляў. Большасць з іх загінула ў Сібіры.

Забіўшы пашырэнне руху, які стаў пагражаць «устоям нацыі» (фінансавай бяспецы імперыі), царскі ўрад не здолеў зламаць тых, хто калісьці прысягнуў не піць алкаголю. Многія з тых, хто ў 1858–1859 гадах падпісаўся пад прысягай, яшчэ ў 1890-х дзе-нідзе падтрымлівалі жыццё «таварыстваў цвярозасці». Як пісаў гісторык і этнограф Станіслаў Цярохін, магчыма, апошнім на Беларусі асяродкам руху цвярозасці славутай антыалкагольнай кампаніі, якая «вызначалася актыўнасцю і баявітасцю», было таварыства ў вёсцы Брашэвічы Кобрынскага павета Гродзенскай губерні.

На завяршэнне хацелася б згадаць мясціны, якія пакінулі след у дакументах расійскіх улраднікаў у сувязі з гэтай справай.

У сваёй знакамітай публікацыі «Народное дело», якая моцна была парэзана цэнзурай, Дабралюбаў згадаў, што з 1725 жыхароў Ашмянаў 900 далі зарок устрымання ад алкаголю. У Брэсце ў таварыствы ўступілі дзве траціны жыхароў, у Пружанах — палова. У Слоніме, згодна з рапартам гараднічага, «народанаселеніцтва хрысціянскае, за малым выключэннем, амаль усё кінула піць віно, а з яўрэяў не менш за траціну».



# Як у «Мігова» гістарычную памяць вяртаюць

**У 18 кіламетрах ад Гродна ў вёсцы Мігова, незвычайна прыгожых прынёманскіх мясцінах, некалькі стагоддзяў жылі мае продкі, амаль усе там і пахаваныя. Хочацца падзяліцца з шаноўнымі чытачамі ідэямі валанцёрскай працы па папулярызацыі мовы, гісторыі, культуры, турызму, якую ў апошнія гады праводзяць сябры нашага садовага таварыства «Мігова».**

### Фальварак, вёска, таварыства

Сёння ў садовых таварыствах пакуль не трэба браць шматлікіх дазволаў, як у гарадах, каб павесіць шыльду, назваць вуліцу, аформіць прыпынак, паставіць памятны знак, правесці вечарыну памяці ці выраўняць дарогу. Галоўнае — пераканаць садаводаў і кіраўніцтва таварыства, і талакой можна шмат зрабіць для захавання памяці пра мінулае. Бо штогод знікаюць з геаграфічнай мапы шматлікія населеныя пункты.

У тысячах беларускіх вёсак ужо засталіся апошнія жыхары, а колькасць лецішчаў, якія жывуць сваім жыццём, пашыраецца. Адбываецца павольны працэс рурбанізацыі: людзі з горада вяртаюцца на малую радзіму ці мігруюць у сельскую мясцовасць, прыносяць ужо іншую мову і культуру туды, дзе нядаўна была беларушчына. Хто, як не мы, можам паруліцца і практычна выкарыстаць свае краязнаўчыя напрацоўкі для візуальнага аднаўлення памяці і мовы ў вёсках і на сваіх лецішчах? Вывучыць сельскую мясцовасць, знайсці зацікаўленых дачнікаў, павесіць шыльды, зрабіць арт-аб'екты, прывабіць прыгожым беларускім словам.

Садовае таварыства «Мігова» побач з аднайменнай вёскай узнікла ў 1980-я гады. Вёска і маёнтак Мігова маюць даўнюю і цікавую гісторыю. Напачатку XIX стагоддзя ў склад маёнтка ўваходзіла нямала земляў: з правага боку Нёмана — фальварак Мігова, вёскі Мігова, Александрова, а на левым беразе Нёмана — Віцькі і Пескі. Апошняя пазней стала таксама маёнткам, бо землі з правага і левага бакоў Нёмана мясцовы гаспадар Іван Абуховіч падзяліў паміж сынам Аляксандрам і дачкой Сафіяй. Вёска Пескі моцна пацярпела ад казацкага набегу ў сярэдзіне XIX стагоддзя. На геаграфічнай карце вёскі і маёнтка Пескі сёння ўжо няма, а ў памяць пра мясцовых жыхароў пастаўлены крыж.

Каля аўтобуснага прыпынку садовага таварыства і шашы з аднаго боку маладымі ліпамі, у бок фальварка Мігова, праз лецішчы, раней праходзіла старая ліпавая алея, якая захавалася толькі фрагментарна. Верагодна, па ёй часта прайязджаў будучы акадэмік Яўхім Карскі, вывучаючы мясцовыя гаворкі. Па гэтай алеі вядомы папулярызатар гісторыі і спецыяліст па садова-паркавым мастацтве Анатоль Федарук адшукаў падмурак сядзібы Шлегеляў, апошніх гаспадароў маёнтка, спаленага падчас Першай сусветнай вайны.

### Месца брэндаў — на прыпынку

На скрыжаванні стаяў прывезены ў 1990-я гады жалезабетонны прыпынак, у якім некаторыя чальцы садовага таварыства хаваліся ад дажджу, чакаючы прыезду гандлёвай «лаўкі» ці прыгараднага транспарту. Кожны дзень нехта праходзіў ці праязджаў каля прыпынку і не звяртаў увагі на яго занядбаны выгляд. Але заўсёды знойдуцца людзі неабыякавыя, і нованароджаную цікавую ідэю аднаго чалавека падхопяць іншыя. У нас такім чалавекам стаў Мікалай Антонавіч Шалай. Яго ідэя па рэстаўрацыі і мастацкім афармленні за ўласныя грошы прыпынку ажыццявілася на працягу летняга адпачынку 2018 года.

У маёнтак Мігова напачатку XX стагоддзя разам са сваёй сям'ёй прыязджаў знакаміты акадэмік Яўхім Карскі. Таму мы, садаводы, вырашылі, што Карскі, які аб'ехаў шматлікія населеныя пункты Гродзеншчыны ў пошуках беларускіх духоўных скарбаў, а ў Мігове збіраў матэрыялы і, верагодна, пісаў старонкі фундаментальнай працы «Беларусы», будзе выдатным брэндам нашага мастацкага праекту на прыпынку ў Мігова.

З чаго ж пачаць? Спачатку варта заняцца індывідуальнай асветніцкай працай. Праз нейкі час можна стварыць ініцыятыўную групу і падзяліць запланаваную работу, даведацца, каму належыць канструкцыя прыпынку ці навес. Дамовіцца з гаспадарамі канструкцыі і зямлі — можа, і яны змогуць дапамагчы адрэстаўраваць? Рэстаўрацыю можна зрабіць самім, можна запрасіць спецыялістаў-будаўнікоў. Будаўнічыя матэрыялы можна купіць ці пашукаць па садовых гаспадарках. Большасць будматэрыялаў і працоўны інструмент мы прынеслі са сваіх лецішчаў, новыя затраты збольшага пайшлі на фарбы і паслугі мастака. Потым неабходна даручыць мясцоваму краязнаўцу распрацаваць праект эскіза на гістарычную тэматыку.

Сябры садовага таварыства з дапамогай уласных «балгарак» знялі старую фарбу і тынкоўку са сцен, моцным пыласосам пад вялікім ціскам вады змылі з іх пыл і сляды тынкоўкі. Наклалі клеявы раствор, выраўнялі, зачысцілі, падрыхтавалі сцены для фарбы-асновы. Пафарбавалі некалькі разоў у светлы колер. На гэта сышло каля трох тыдняў (рэстаўрацыю рабілі толькі ў выходныя).

Адначасова краязнаўцы дапрацавалі эскіз краязнаўча-турыстычнага маршрута «Прынёманскімі шляхамі акадэміка Я.Карскага» з улікам новых гістарычных звестак.



Пачатак працы на прыпынку



Агульнае фота пасля вечарыны, прысвечанай настаўніку Цыхуну




Закупілі фарбы для малюнкаў і тэкстаў. Запрасілі студэнтку-мастачку Лізавету Бірукову, якая каля трох тыдняў малявала на сценах прыпынку задуманае.

На бакавой сцяне з'явіўся партрэт Героя Сацыялістычнай працы, шматгадовага старшыні СВК «Абухава» Іллі Пятровіча Сянько, які ў 2017 годзе пакінуў гэты свет. Унутры прыпынку на цэнтральнай сцяне — карта турыстычнага маршрута «Прынёманскімі шляхамі акадэміка Я.Карскага». Акрамя гісторыі цэркваў, касцёлаў, сінагог у населеных пунктах па маршруце вельмі важна нагадаць пра цікавых людзей, якія ўжо адышлі ў лепшы свет, — гэта найперш вядомыя настаўнікі, паэты, мясцовыя патрыёты. Таму мы намалявалі партрэты гэтых асоб, пад партрэтамі напісалі прозвішчы і даты жыцця іншых знакавых людзей нашых мясцін.

Дарэчы, пасля нашага прыпынку, які мы скончылі напрыканцы жніўня 2018 года, быў зроблены цікавы праект на Магілёўшчыне, на прыпынку ў вёсцы Глуша — малой радзіме Алеся Адамовіча.

Агулам на рэстаўрацыю, збор і дапрацоўку зробленых раней краязнаўчых матэрыялаў, удасканальванне эскізу і мастацкае афармленне прыпынку нам спатрэбілася паўтара месяца валанцёрскай і наёмнай працы.

### Адзіная ў краіне вуліца ў гонар князя-асілка

У таварыстве «Мігова» вуліц і дамоў сёння больш, чым было ў аднайменнай вёсцы. У шматлікіх садовых таварыствах вуліцы да сёння пазначаюцца нумарамі: першая, другая, трэцяя... А хто перашкаджае ім даць назвы ў гонар вядомых мясцовых асоб, падзей, павесіць шыльды з гэтымі назвамі і нумарамі ўчасткаў? Так нашы сябры садовага таварыства і зрабілі ў мінулыя гады. На адмысловым дрэваапрацоўчым ручным станку за 30 хвілін можна вырабіць на дошцы назву вуліцы. Застаецца яе толькі пакрыць лакам і ўсталяваць з дазволу кіраўніцтва таварыства і гаспадара дачы.

Вуліцы назвалі імёнамі тутэйшых асоб, якія засталіся ў памяці мясцовых людзей. Першымі ў таварыстве з'явіліся вуліцы акадэміка Яўхіма Карскага і адзіная ў Беларусі вуліца князя-асілка Комата. Як лічаць некаторыя краязнаўцы, вёска Коматава ўтвораная ад імені гэтага слаўтага князя, пра якога людзі Гродзеншчыны і Ковеншчыны, па сведчаннях этнографа Паўла Шпілеўскага, спявалі песні больш 600 гадоў. А Ян Чачот пра князя Комата нават напісаў верш. Род Коматаў вывучаюць літоўцы, палякі, англічане, але звестак пра яго няшмат. Наш герой праводзіў перамовы з галіцка-валынскімі князямі, ад рук якіх загінуў у 1254 годзе, пакінуўшы трох сыноў.

Вуліцам без назвы ў садовым таварыстве вырашылі надаць імёны заслужанага настаўніка Беларусі Апанаса Цыхуна, старшыні СВК «Абухава» Іллі Сянько, святара Іосіфа Амельяновіча, які выратаваў жыхароў Коматава ад расстрэлу фашыстамі ў 1944 годзе, гаспадара маёнтка Мігова Аляксандра Абуховіча.

Ці з'явіцца памятны знак Карскаму? Залежыць ад нас!

У 2017 годзе праз Міністэрства культуры і мясцовыя ўлады аформілі неабходныя дакументы для ўсталявання памятнага знака ў вёсцы Мігова акадэміку Яўхіму Карскаму. Каб гэта рабілі на землях садовага таварыства, то спатрэбілася б у 10 разоў менш дакументаў і ўзгадненняў з уладамі. Але абралі цяжэйшы варыянт. Дакументы ёсць, але агучаная будаўнічай фірмай сума для ўсталявання памятнага знаку ў 10 тысяч рублёў для мясцовых людзей пакуль непад'ёмная. Багаты фундатар таксама яшчэ не знайшоўся. Таму вырашылі працаваць паэтапна: на вясну прывезці некалькі машын пяску для пляцоўкі, разраўняць, зрабіць падмурак пад валун-знак, прывезці і ўсталяваць на падмурак знойдзены шматтонны валун. Потым неабходна зрабіць шыльду з надпісам.

Спадзяемся на Божую ласку і на чытачоў, якія любяць Беларусь і могуць дапамагчы нам ва ўсталяванні ў Мігова валуна з шыльдай акадэміку Яўхіму Карскаму.

Ахвяраваць сродкі з пазнакай «На памятны знак Я. Карскаму» можна на рахунак Гродзенскага абласнога ТБМ: р/р BY34RSHN30156897300130000000 у ЗАТ «Банк «Рашэнне», БІК: RSHNBY2X, УНП 500599123. Прозвішчы і сумы будучых фундатараў (з іх згоды) будуць надрукаваны ў СМІ. Нам можна патэлефанаваць: +375-33-342-16-17 ці напісаць на адрас: migowich@tut.by.

**Сябра садовага таварыства «Мігова» і сябра абласной Рады ТБМ Аляксандр Крой**




Фота www.amur.info

# БагатаДата

**Вы ведаеце, што ёсць Сусветны дзень экалагічных ведаў? А хочаце даведацца, хто на гэтым тыдні адзначае юбілей ці круглую дату? Глядзіце наш агляд.**

### 13 красавіка

**Сусветны дзень рок-н-ролу.**

**1904.** У мястэчку Камень Лепельскага раёна на Віцебшчыне нарадзіўся беларускі крытык і тэатразнаўца Міхась Модэль. Працаваў дырэктарам Цэнтральнага партыйнага клуба ў Мінску, інструктарам аддзела культуры і прапаганды ЦК КПБ, узначальваў тэатральны аддзел упраўлення па справах мастацтваў пры Савеце міністраў БССР, быў адказным сакратаром Саюза пісьменнікаў. Адсочваў, каб у п'есах і спектаклях 1920-х і 1930-х гадоў «ускрывалася класавая сутнасць драматургічных канфліктаў». Пляжыў творы нацыянальнага кірунку — напрыклад, п'есы «Апраметная» Васіля Шашалевіча і «Кастусь Каліноўскі» Еўсцігнея Міровіча. Вось што Модэль пісаў пра п'есу Шашалевіча: «Разлічана на задавальненне ідэйных запатрабаванняў і рэакцыйных густаў нацыяналістычных колаў беларускай інтэлігенцыі».

### 14 красавіка

**1884.** У Мінску нарадзіўся Майсей Шапіра, вядомы беларускі медык. Працаваў галоўным траўматолагам БССР, дырэктарам Навукова-даследчага інстытуту фтызіятрыі, артапедыі і нейралогіі.

**1904.** У Магілёве нарадзіўся Валянцін Пянькоўскі, савецкі военачальнік. Быў удзельнікам Сталінградскай і Курскай бітваў падчас Другой сусветнай вайны. З 1961 года камандаваў Беларускай вайсковай акругай. А ў 1964-м стаў намеснікам міністра абароны СССР па баявой падрыхтоўцы.

### 15 красавіка

**Міжнародны дзень культуры,** а таксама **Дзень экалагічных ведаў.**

**1919.** У вёсцы Марчанкі Гарадоцкага раёна на Віцебшчыне нарадзіўся Цімафей Рамашкін, лётчык, Герой Савецкага Саюза. Пасля вайны працаваў у грамадзянскай авіяцыі. Калі ў 1954 годзе Рамашкін выконваў рэйс Талін — Ленінград, у кабіну пілотаў уварваліся ўзброеныя людзі, якія хацелі захапіць самалёт. Рамашкін збіў аднаго з ног і абясшкодзіў яго. Але сам быў смяротна паранены. Камандзір экіпажа і другі пілот абяззброілі яшчэ аднаго бандыта. Пахаваны Цімафей Рамашкін у Таліне, а ў беларускай сталіцы ў скверы каля аэрапорта «Мінск–1» устаноўлены яму помнік.

### 16 красавіка

**1959.** У Ракаве Валожынскага раёна на Міншчыне нарадзіўся Рыгор Шацько, акцёр Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску. Працяглы час Шацько быў і яго дырэктарам.

**1979.** Ва ўкраінскім Роўне нарадзілася Ала Цупер, беларуская фрыстайлістка, чэмпіёнка Алімпіяды–2014.

**1999.** Пачаў камерцыйную дзейнасць першы сотавы GSM-аператар у Беларусі — кампанія «Мабільная лічбавая сувязь» (цяпер «velcom»).

### 17 красавіка

**Міжнародны дзень памніку і гістарычных мясцінаў,** а таксама **Сусветны дзень радыёаматара.**

**1899.** У Мінску нарадзілася Лідзія Ржэцкая — Народная артыстка БССР і СССР, што цягам болей 50 гадоў грала ў Купалаўскім тэатры. У трупе яе называлі «мамай Лідай».

### 18 красавіка

**1814.** У Лагойску з'явіўся на свет Яўстафій Тышкевіч, краязнаўца і археолаг, на аснове калекцыі якога быў створаны Віленскі музей старажытнасцяў.

### 19 красавіка

**1909.** У Мінску нарадзіўся беларускі музыказнаўца Браніслаў Смольскі, бацька кампазітара Дзмітрыя Смольскага.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

# «Aerosmith» з канцэртам у Клічаве. Чаму б не?

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**Клічаўцы, жыхары невялічкага райцэнтра ў Магілёўскай вобласці, хочуць запрасіць лідара гурта «Aerosmith» Стывена Тайлера выступіць на «Ночы музеяў». Чаму яны вераць, што ў іх атрымаецца?**

Пісьменнік Фларыян Чарнышэвіч апісаў у рамане «Надбярэзінцы» побыт шляхецкіх засценкаў Усходняй Беларусі пачатку XX стагоддзя. Кніга — гэта фактычна яго мемуары (увасобіў сябе ў галоўным героі Станіславе Балашэвічы).

Фларыян Чарнышэвіч нарадзіўся ў 1900 годзе ў сям'і дробнага шляхціца Бабруйскага павета. Быў шчырым католікам і лічыў сябе палякам, змагаўся з бальшавікамі спачатку як польскі разведчык, потым як салдат. У 1924 годзе эміграваў у Аргенціну, дзе ў 1942 годзе і выдаў раман «Надбярэзінцы», а потым яшчэ 3 кнігі, заснаваныя на ўласных успамінах. Пісьменнік, вядома ж, «шыфраваў» імёны і назвы мясцін, але з дапамогай Ірыны Рэвы, унучатай пляменніцы Фларыяна Чарнышэвіча, і польскага даследчыка біяграфіі пісьменніка Барташа Байкува, мы даведаліся падрабязнасці сямейнай гісторыі.

Паводле словаў Ірыны, бацьку пісьменніка звалі Франц. Сайт geni.com, дзе нашчадкі стварылі родавае дрэва Чарнышэвічаў, дае варыянт «Францішак», і імя яго жонкі, маці пісьменніка, — Апалонія. Спачатку сям'я жыла на хутары Хмара ля вёскі Перасопня Клічаўскага раёна. Потым пераехала ў вёску Перасека (цяпер не існуе, знаходзілася ў кірунку Клічаў — Бёрда — Убалацце).



**Сям'я Чарнышэвічаў. Франц, яго жонка Апалонія. За імі стаяць: сын Франца Бярнард, яго жонка Ядвіга (у дзявоцтве Сікорская). Побач з ёй — дачка Франца Вікторыя. З другога боку — дзяўчынка-сіротка, што жыла ў сям'і Чарнышэвічаў. Пачатак 1920-х гадоў.** Фота з сямейнага архіву Ірыны Рэва

На могілках у Перасецы спачывае бабуля Фларыяна Чарнышэвіча Агнешка, жонка «старога Балашэвіча» з «Надбярэзінцаў» (адпаведна сямейнаму дрэву, яго звалі Ксаверы). Выходзіць, апісаныя ў «Надбярэзінцах» Рогі — гэта хутар Хмара, вёска Ніты, з якой сялянне рабілі набегі на шляхту ў Рогах — Перасопня (расповеды старэйшых мужчын пра набегі прыгадаў жыхар Перасопні Мікалай Кушнер), а Смалярня, у якой жывуць галоўныя героі «Надбярэзінцаў», — Перасека.

Падчас калектывізацыі Франц і Апалонія пераехалі ў вёску Убалаць. Франц памёр перад Другой сусветнай вайной, а Апалонія — неўзабаве пасля. Паводле словаў Віктара Чарнышэвіча, іх праўнука, яны пахаваныя на мясцовых могілках, і там жа — бацька Франца Ксаверый. Ідэнтыфікаваць іх магілы пакуль не атрымалася.

Франц меў 5 дзяцей. Фелікс нарадзіўся ў 1892 годзе (на яго надмагіллі недалёка ад Філадэльфіі — 1899 год), Фларыян — у 1900 годзе, Бярнард — у 1902 годзе (у дакументах месцам яго нараджэння пазначана вёска Перасека). Год нараджэння малодшага сына Франца, Станіслава, невядомы. Дачка Вікторыя нарадзілася ў 1905 годзе.

Старэйшы брат пісьменніка Фелікс у 1914 годзе з'ехаў у ЗША. Яго дачка С'юзан — маці вакаліста «Aerosmith» Стывена Тайлера і бабуля галівудскай акцёркі Ліў Тайлер, найбольш вядомай па ролі Арвен Ундаміэль у фільме «Валадар пярсцёнкаў».



**Фелікс Чарнышэвіч з унукам Стывенам Тайлерам.** Крыніца: geni.com

Супрацоўніца Клічаўскага краязнаўчага музея Лідзія Ачыновіч лічыць, што ў свеце глабальных камунікацый запрасіць Стывена Тайлера выступіць на радзіме яго дзеда — цалкам рэальна, патрэбны толькі адпаведны менеджмент. Пакуль што музей не рабіў крокаў у гэтым кірунку. Але вельмі верагодна, што яны будуць сустрэтыя прыхільна. Прынамсі, пра Клічаў у сям'і Стывена ведаюць.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №567

Падпісана да друку 12.04.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.